Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **3** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 51(075.2=161.1)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры дашкольнай і пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава», канд. пед. навук, дац. *З. К. Ляўчук*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 137 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *А. С. Ціханчук*)

## Умоўныя абазначэнні:

— новы матэрыял;

— паўтарэнне вывучанага;

— дружныя задачы;

— заданне на кемлівасць;

— адкажы на пытанне, выканай заданне;

— выканай дома;

— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!»

**ISBN 978-985-559-228-1 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-226-7**

## Змест





! У 7 аднолькавых пакетах 14 л соку.
Колькі літраў соку ў 2 такіх пакетах?




Спачатку даведаемся, колькі літраў соку ў адным пакеце.

Потым даведаемся, колькі літраў соку ў 2 пакетах.




**1.** На 4 сукенкі зрасходавалі 12 м тканіны, пароўну на кожную. Колькі метраў тканіны зрасходуюць на 6 такіх жа сукенак?

| Расход тканіны на 1 сукенку (м) | Колькасць сукенак (шт.) | Агульны расход тканіны (м) |
|---|---|---|
| аднолькавы | 4 | 12 |
| | 6 | ? |

Што даведаемся спачатку?




Што даведаемся потым?



**2.** Прывезлі 64 кг фруктаў. Да абеду прадалі чацвёртую частку фруктаў. Колькі кілаграмаў фруктаў засталося?

**3.** Параўнай выразы. Чым яны падобныя? Чым адрозніваюцца?

$8 \cdot 4$  $8 \cdot x$

**4.** Рашы ўраўненні.

$24 : x = 12 : 2$  $x \cdot 6 = 4 \cdot 9$

$32 : x = 16 : 4$  $y \cdot 7 = 13 + 43$

$12 : y = 11 : 11$  $1 \cdot y = 5 \cdot 2$

**5.** Параўнай плошчы фігур.

① 

② 

③ 

**6.** Лёша, Ігар, Лена, Наташа маюць лепшыя вынікі па скачка́х сярод вучняў трэцяга класа. У каманду павінны ўвайсці дзяўчынка і хлопчык. Колькімі спосабамі можна скласці каманду?

Колькі алоўкаў у трох каробках, калі ў дзвюх такіх каробках 12 алоўкаў?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$7 \cdot 5 - 12$  $3 \cdot 9 + 9 \cdot 4$  $(23 - 19) \cdot 10$

**2.** На спаборніцтвах 25 хлопчыкаў і 29 дзяўчынак падзяліліся на каманды па 6 чалавек. Колькі каманд атрымалася?

## Як вызначыць плошчу фігуры з дапамогай палеткі?





Разважай так:

1. На паверхні кожнай фігуры змясцілася 6 поўных квадратных сантыметраў і яшчэ 4 няпоўныя квадратныя сантыметры.
2. Буду лічыць, што 2 няпоўныя квадратныя сантыметры прыблізна складаюць 1 поўны.
3. Значыць, 4 няпоўныя квадратныя сантыметры прыблізна роўныя па плошчы 2 поўным.
4. Вылічу плошчу кожнай фігуры:

$$6 + 4 : 2 = 8 \text{ (см}^2\text{)}$$

**1.** Знайдзі з дапамогай палеткі плошчы многавугольнікаў.





**2.** Міша з’еў 9 вішань, што складае $\frac{1}{4}$ частку ўсіх вішань у вазе. Колькі вішань было ў вазе?

**3.** На навагодняй ёлцы было 54 дзіцяці. Шостая частка дзяцей прачытала Дзеду Марозу вершы, а 20 дзяцей праспявалі песні. Астатнія дзеці загадвалі Дзеду Марозу загадкі. Колькі дзяцей загадвала загадкі?

**4.** У трох аднолькавых падарунках было 27 цукерак. Колькі цукерак у пяці такіх падарунках?

**5.** Знайдзі значэнні выразаў.

| $a$ | 2 | 4 | 1 | 0 |
|---|---|---|---|---|
| $85 - a \cdot 4$ | ? | ? | ? | ? |
| $7 \cdot a + 6$ | ? | ? | ? | ? |

**6.** Значэнне якога выразу большае і на колькі?

$18 : 2$ або $27 : 9$ $\quad$ $56 : 7$ або $24 : 6$

$8 \cdot 8$ або $7 \cdot 9$ $\quad$ $10 \cdot 0$ або $10 : 1$

На паверхні чатырохвугольніка змясцілася 8 поўных квадратных сантыметраў і 4 няпоўныя. Знайдзі плошчу гэтага чатырохвугольніка.

**1.** Вылічы.

$(12 + 18) : 3$ $\quad$ $(42 - 39) \cdot 6$ $\quad$ $55 - 27 : 3$

**2.** У сямі аднолькавых кнігах 28 малюнкаў. Колькі малюнкаў у трох такіх кнігах?



$20 \cdot 3 = 2$ дзяс. $\cdot\ 3 = 6$ дзяс. $= 60$
$60 : 3 = 6$ дзяс. $:\ 3 = 2$ дзяс. $= 20$
$60 : 20 = 6$ дзяс. $:\ 2$ дзяс. $= 3$

**1.** Вылічы і растлумач.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $10 \cdot 4$ | $30 \cdot 2$ | $40 \cdot 2$ | $20 \cdot 4$ |
| $40 : 4$ | $60 : 2$ | $80 : 2$ | $80 : 4$ |
| $40 : 10$ | $60 : 30$ | $80 : 40$ | $80 : 20$ |

**2.** Вылічы па ўзоры.

$3 \cdot 20 = 60$
$20 \cdot 3 = 60$

$3 \cdot 30$ $\quad$ $4 \cdot 20$ $\quad$ $2 \cdot 50$

**3.** Вылічы плошчы фігур з дапамогай палеткі.



**4.** За шэсць дзён у сталовай зрасходавалі 48 кг цыбулі, пароўну ў кожны дзень. Колькі кілаграмаў цыбулі было зрасходавана за тры дні?

**5.** Дапоўні задачу данымі з табліцы. Рашы задачу.
Афрыканскі слон на 2 м ніжэйшы за жырафу. Ці можа жырафа зазірнуць у акно другога паверха дома, калі яно знаходзіцца на вышыні 50 дм ад зямлі?

| Зубр | 2 м |
|---|---|
| Слон | 4 м |
| Страус | 2 м 70 см |



**6.** Прамавугольнік разрэзалі на 6 роўных частак. Знайдзі плошчу прамавугольніка, калі плошча адной часткі роўная 7 см$^2$.

**7.** Састаў выразы.
- Лік 7 памножылі на невядомы лік.
- Невядомы лік павялічылі ў 9 разоў.
- Лік 81 падзялілі на невядомы лік.
- Невядомы лік паменшылі ў 4 разы.

**8.** Рашы ўраўненні.
$5 \cdot x = 45$ $\quad$ $40 : a = 2$ $\quad$ $62 + y = 71$

? Растлумач, як 40 памножыць на 2; як 3 памножыць на 20.

**1.** Знайдзі значэнні выразу $49 + 2 \cdot k$, калі $k$ роўна 0; 1; 2; 8.

**2.** У адзін акварыум трэба ўліць 24 л вады, а ў другі — 36 л. Колькі шасцілітровых вёдзер вады трэба ўліць у абодва акварыумы?

**!** Колькі ўсяго груш? Разгледзь розныя спосабы вылічэння.



**1 спосаб**

Колькі груш у адным радзе?

$4 + 2$

Колькі ўсяго груш?

$(4 + 2) \cdot 3$

**2 спосаб**

Колькі жоўтых груш?

$4 \cdot 3$

Колькі чырвоных груш?

$2 \cdot 3$

Колькі ўсяго груш?

$4 \cdot 3 + 2 \cdot 3$

$$(4 + 2) \cdot 3 = 4 \cdot 3 + 2 \cdot 3$$

**Размеркавальная ўласцівасць множання**

Каб памножыць суму на лік, можна кожнае складаемае памножыць на гэты лік і атрыманыя рэзультаты скласці.

$$(a + b) \cdot c = a \cdot c + b \cdot c$$

**1.** Вылічы рознымі спосабамі.

$(4 + 3) \cdot 5$ $(2 + 5) \cdot 6$ $(5 + 7) \cdot 2$

$(2 + 8) \cdot 7$ $(4 + 1) \cdot 9$ $(4 + 9) \cdot 3$

**2.** Параўнай.

$7 \cdot 2 + 3 \cdot 2$ ? $(7 + 3) \cdot 2$ $(5 + 4) \cdot 3$ ? $5 \cdot 3 + 4$

$(9 + 0) \cdot 10$ ? $10 \cdot 9 + 10$ $2 \cdot 3 + 6$ ? $(2 + 6) \cdot 3$

**3.** Растлумач, як можна рознымі спосабамі вылічыць перыметр прамавугольніка *ABCD*.






**Перыметр** фігуры абазначаюць лацінскай літарай *P*.

$P = (3 + 2) \cdot 2 = 10$ (см)    $P = 3 \cdot 2 + 2 \cdot 2 = 10$ (см)

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Складаемае | 10 · 1 | 4 · 0 | 63 – 27 | 48 : 6 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 12 : 4 | 16 : 8 | 5 · 4 | 81 : 9 |

**5.** Для ўпрыгожвання 2 аднолькавых блузак трэба 16 дм тасьмы. Колькі дэцыметраў тасьмы трэба для 3 такіх блузак?

**6.** Маса адной лялькі і адной машынкі разам роўная 5 кг, а маса чатырох такіх лялек і трох машынак — 17 кг. Знайдзі масу адной лялькі і масу адной машынкі.

Знайдзі правільную роўнасць.
$(6 + 3) \cdot 4 = 6 + 3 \cdot 4$    $(6 + 3) \cdot 4 = 6 \cdot 4 + 3 \cdot 4$

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
$(46 – 6) : 4$    $4 \cdot 10 : 5$    $52 – 2 + 50$

**2.** Для таго каб звязаць 3 пары аднолькавых рукавічак, бабулі спатрэбілася 12 маткоў пражы. Колькі маткоў пражы пайшло на 2 пары рукавічак?

**Як памножыць двухзначны лік на адназначны?**




34 · 2

30 | 4

$34 \cdot 2 = (30 + 4) \cdot 2 = 30 \cdot 2 + 4 \cdot 2 = 60 + 8 = 68$

Разважай так:

1. Прадстаўляю двухзначны лік у выглядзе сумы разрадных складаемых.
2. Множу кожнае складаемае на адназначны лік.
3. Атрыманыя рэзультаты складваю.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$22 \cdot 3$ $\quad 2 \cdot 44$ $\quad 15 \cdot 6$ $\quad 9 \cdot 11$

$25 \cdot 4$ $\quad 7 \cdot 12$ $\quad 17 \cdot 4$ $\quad 5 \cdot 13$

**2.** Складзі і параўнай запісы.

| | |
|---|---|
| Лік 5 памножылі на невядомы лік. | Лік 5 памножылі на невядомы лік і атрымалі 10. |
| Невядомы лік падзялілі на 8. | Невядомы лік падзялілі на 8 і атрымалі 2. |

**3.** Складзі пытанне і рашы задачу.

Дзясятую частку гадзіны Міша затраціў на тое, каб скапіраваць любімы фільм на свой камп'ютар, а трэцюю частку гадзіны глядзеў гэты фільм.

**4.** Мышка за 4 г занесла ў норку 20 зярнятак. Колькі зярнятак яна можа зацягнуць у норку за 2 г, калі будзе насіць па столькі ж зярнятак за гадзіну?

**5.** Вылічы.

45 : 9 · 6 + 1 (10 + 30) · 2 – 80

74 – 36 : 6 – 15 (20 + 40) : 6 + 90

**6.** Вылічы перыметр прамавугольніка, даўжыня якога 10 см, а шырыня 7 см.

**7.** Змяні лікі ў задачы 6 так, каб перыметр прамавугольніка павялічыўся на 4 см.

**8.** Колькі часу? На якім цыферблаце стрэлкі ўтвараюць прамы вугал? Востры вугал? Тупы вугал?



Растлумач, як памножыць 45 на 2.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

14 · 5 3 · 16 4 · 22 25 · 2 – 25

**2.** Вылічы перыметр прамавугольніка, шырыня якога 6 см, а даўжыня 13 см.

На якія дзве групы можна падзяліць фігуры?




Растлумач, чаму трохвугольнікі *ABC* і *MNO* называюць роўнастароннімі.

**1.** Вылічы перыметры роўнастаронніх трохвугольнікаў, калі даўжыні іх старон роўныя:

10 см　　12 дм　　1 м

**2.** Рашы задачу двума спосабамі.
Колькі метраў тканіны трэба, каб пашыць 11 касцюмаў, калі на кожныя штаны ідзе па 2 м тканіны, а на кожны пінжак па 3 м тканіны?



**3.** За 2 мін з крана выцякае 10 л вады. Колькі літраў вады можа выліцца з крана за 5 мін?

**4.** Вылічы перыметр квадрата са стараной 5 см. Чаму роўная $\frac{1}{4}$ частка перыметра гэтага квадрата? $\frac{1}{2}$ частка?

**5.** Знайдзі значэнні выразаў, калі $a$ роўна 4.

$(a + 7) \cdot 3$ $\qquad$ $2 \cdot 9 + 2 \cdot a$

$(9 + a) \cdot 3$ $\qquad$ $a \cdot 3 + 7 \cdot 3$

**6.** Рашы ўраўненні.

$12 + x = 14 \cdot 3$ $\qquad$ $x - 29 = 15 \cdot 4$

$62 - x = 3 \cdot 11$ $\qquad$ $x + 31 = 3 \cdot 27$

**7.** Вылічы. Адказ запішы ў гадзінах і мінутах.

100 мін – 39 мін $\qquad$ 100 мін – 91 мін + 83 мін

40 мін + 36 мін $\qquad$ 80 мін – 65 мін + 75 мін

**8.** У класе 13 вучняў. З іх 7 вучняў умеюць плаваць і 8 вучняў вучаць англійскую мову.
Ці магчыма гэта? Растлумач.

Колькі роўнастаронніх трохвугольнікаў на рысунку?




**1.** Павяліч у 4 разы лікі: 12, 15, 24, 25.

**2.** З чацвёртай часткі купленых ягад зварылі варэнне. Колькі ягад купілі, калі на варэнне пайшло 8 кг ягад?

**1.** Вылічы рознымі спосабамі.

$(8 + 40) \cdot 2$ $(30 + 6) \cdot 2$

$(10 + 8) \cdot 4$ $(20 + 3) \cdot 3$

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| $c$ | 11 | 12 | 16 | 18 | 21 |
|---|---|---|---|---|---|
| $15 + c \cdot 4$ | ? | ? | ? | ? | ? |
| $3 \cdot c - 6$ | ? | ? | ? | ? | ? |

**3.** Параўнай.

$8 \cdot 4 + 8 \cdot 3$ ? $8 \cdot 7$ $2 + 2$ ? $2 \cdot 2$

$3 \cdot 4 + 5 \cdot 6$ ? $3 \cdot 10$ $9 + 9$ ? $9 \cdot 2$

**4.** Знайдзі значэнні выразу $(a + b) \cdot c$, калі:

| $a \cdot c$ | 29 | 13 | 0 | 10 |
|---|---|---|---|---|
| $b \cdot c$ | 61 | 45 | 10 | 1 |

**5.** Састаў ураўненні і рашы іх.

- Лік павялічылі ў 5 разоў і атрымалі 30.
- Лік павялічылі на 5 і атрымалі 30.
- Лік паменшылі ў 6 разоў і атрымалі 2.
- Лік паменшылі на 6 і атрымалі 2.

**6.** У актавай зале школы 100 месцаў. Ці хопіць месцаў для ўсіх вучняў, калі ў залу ўвайшло 3 класы, і ў кожным класе было па 13 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак?

**7.** У 6 каробках 60 алоўкаў, пароўну ў кожнай. Колькі алоўкаў у 4 такіх каробках?

**8.** Прачытай задачу. Ці можна яе рашыць? Калі нельга, то змяні ўмову так, каб задача рашалася.
Тата прынёс для паліўкі агарода 10 вёдзер вады, а Мікіта — 20 л вады. Колькі ўсяго літраў вады прынеслі тата і Мікіта?

**9.** Вызнач, колькі сантыметраў змяшчаецца:
- у палавіне метра; у дзвюх палавінах метра;
- у палавіне дэцыметра; у дзвюх палавінах дэцыметра;
- у чвэрці метра; у чатырох чвэрцях метра.

**10.** Дзіма, Іван, Сяргей і Коля занялі першыя чатыры месцы ў спаборніцтвах па бегу. Вызнач, якое месца заняў кожны хлопчык, калі:
- Дзіма не заняў ні першага, ні чацвёртага месца;
- Іван заняў другое месца;
- Сяргей не быў апошнім.



**1.** Рашы ўраўненні.

$a : 12 = 5$ $\qquad$ $a : 7 = 13$

$24 : a = 3$ $\qquad$ $a \cdot 3 = 30$

**2.** Прадалі 12 пакетаў з чырвонай і белай цыбуляй. У кожным пакеце было па 2 кг чырвонай цыбулі і па 3 кг белай цыбулі. Знайдзі масу прададзенай цыбулі.

Трое дзяцей хочуць падзяліць пароўну 18 штук ірысу і 12 штук ледзянцоў. Колькі цукерак атрымае кожны?



| 1 спосаб | 2 спосаб |
|---|---|
| (18 + 12) : 3 = 30 : 3 = 10 | 18 : 3 + 12 : 3 = 6 + 4 = 10 |

(18 + 12) : 3 = 18 : 3 + 12 : 3

Каб падзяліць суму на лік, можна кожнае складаемае падзяліць на гэты лік і атрыманыя рэзультаты скласці.

$$(a + b) : c = a : c + b : c$$

**1.** Вылічы рознымі спосабамі.

(8 + 4) : 2 (3 + 6) : 3 (12 + 4) : 2

(8 + 8) : 4 (9 + 9) : 3 (24 + 16) : 4

**2.** Параўнай.

(4 + 8) : 2 ? 4 : 2 + 8 : 2 15 : 5 + 0 : 5 ? (15 + 0) : 5

12 : 3 + 9 ? (12 + 9) : 3 30 : 6 + 0 · 6 ? (30 + 0) : 6

**3.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Складаемае | 10 : 2 | 32 : 8 | 9 + 27 | 11 · 2 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 12 : 4 | 16 : 8 | 1 · 3 | 33 · 2 |

**4.** Дапоўні ўмову данымі з табліцы. Рашы задачу.
Даўжыня дэльфіна складае $\frac{1}{9}$ частку даўжыні сіняга кіта. Знайдзі даўжыню сіняга кіта.

| Морж | 4 м |
|---|---|
| Дэльфін | 3 м |
| Цюлень | 3 м |



**5.** Выберы схему. Рашы задачу.
У Мілы ў 3 разы больш сліў, чым у Цімы. Калі Міла з’есць 4 слівы, то ў дзяцей сліў стане пароўну. Колькі сліў у Мілы?




**6.** Палавіна перыметра прамавугольніка роўная 16 см. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка. Знайдзі даўжыні старон гэтага прамавугольніка, калі адна са старон на 6 см карацейшая за другую.

Знайдзі правільную няроўнасць.
(6 + 4) : 2 = 6 : 2 + 4 (6 + 4) : 2 = 6 : 2 + 4 : 2

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
(60 + 20) : 2 60 : 3 + 9 : 3 18 · 3

**2.** У 8 каробках 24 кг зефіру, пароўну ў кожнай. Колькі кілаграмаў зефіру ў 5 такіх каробках?

Як падзяліць двухзначны лік на адназначны?



$36 : 3 = (30 + 6) : 3$



$36 : 2 = (20 + 16) : 2$

Разважай так:

1. Прадстаўляю двухзначны лік у выглядзе сумы зручных складаемых, кожнае з якіх дзеліцца на дзельнік.
2. Дзялю кожнае складаемае на адназначны лік.
3. Атрыманыя рэзультаты складваю.

**1.** Запішы лікі 60 і 75 у выглядзе сумы зручных складаемых, кожнае з якіх дзеліцца на 5.

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 : 2 | 48 : 4 | 50 : 2 | 70 : 2 |
| 72 : 2 | 72 : 3 | 72 : 4 | 72 : 6 |

**3.** Знайдзі значэнні выразу $a \cdot 13$, калі $a$ роўна 0; 1; 3; 5; 7.

**4.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Лік 6 памножылі на невядомы лік і атрымалі 54.
- Невядомы лік паменшылі ў 5 разоў і атрымалі 3.

**5.** Пафарбавалі $\frac{1}{5}$ частку плота даўжынёй 80 м. Колькі метраў плота засталося пафарбаваць?

**6.** Вышыня сцябла 4 см. Вусень прапоўз ад пачатку сцябла 3 см, а потым вярнуўся назад на 1 см. Колькі сантыметраў засталося паўзці вусеню да верху сцябла?




**7.** Знайдзі суму лікаў ад 1 да 12; ад 4 да 14.

**8.** Як ты думаеш, які з чырвоных адрэзкаў даўжэйшы? Правер з дапамогай вымярэнняў.





Растлумач, як падзяліць 39 на 3; 48 на 3.

**1.** Вылічы. Выканай праверку множаннем.

96 : 6     58 : 2     75 : 5     69 : 3

**2.** Шостую частку ўсіх дзён лістапада свяціла сонца, а астатнія дні былі пахмурныя. Якіх дзён у лістападзе было больш — пахмурных ці сонечных? На колькі больш?

**Як падзяліць двухзначны лік на двухзначны?**

$\underline{48 : 12 = ?}$
$2 \cdot 12 = 24$
$3 \cdot 12 = 36$
$4 \cdot 12 = 48$
$5 \cdot 12 = 60$




Развражай так:
1. Спрабую розныя адназначныя лікі множыць на дзельнік.
2. Выбіраю лік, пры множанні якога на дзельнік атрымліваецца дзялімае.

**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $45 : 15$ | $62 : 31$ | $96 : 16$ |
| $88 : 22$ | $85 : 17$ | $84 : 12$ |

**2.** У колькі разоў 4 менш, чым 96? 40? 100?

На колькі 4 менш, чым 96? 40? 100?

У колькі разоў 96 больш, чым 6? 2? 8?

На колькі 96 больш, чым 6? 2? 8?

**3.** Састаў правільныя роўнасці і няроўнасці, выкарыстоўваючы выразы:

$17 \cdot 4 - 60$  $90 : 5 + 18$  $64 : 8$  $2 \cdot 18$

**4.** Для сквера купілі 46 саджанцаў клёнаў і столькі ж саджанцаў ліп. Ці хопіць гэтых саджанцаў, каб пасадзіць дрэвы ў 3 рады, па 32 дрэвы ў кожным радзе?

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.
Тату 35 гадоў. Тата ў 5 разоў старэйшы за сына. На колькі гадоў тата старэйшы за сына?




**6.** Складзі і рашы задачу.

| Зрабіў за 1 гадзіну (шт.) | Час працы (г) | Усяго зрабіў (шт.) |
|---|---|---|
| аднолькава | 7 | ? |
| | 2 | 18 |

**7.** Знайдзі тры лікі, здабытак якіх роўны іх суме.

Растлумач, як можна падзяліць 75 на 15.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.
29 · 3    84 : 6    65 : 13    78 : 26

**2.** Вылічы перыметр прамавугольніка з даўжынямі старон 24 см і 13 см.

# Урок 75

**!** Дзевяць сшыткаў раздалі па чатыры сшыткі вучням. Колькі вучняў атрымала сшыткі?



9 : 4 = 2 (аст. 1)

Разважай так:

1. Трэба даведацца, колькі разоў па 4 сшыткі можна раздаць.
2. Можна раздаць 2 разы па 4 сшыткі, і яшчэ застанецца 1 сшытак.
3. Значыць, 2 вучні атрымаюць сшыткі, і застанецца 1 сшытак.

**1.** Вылічы па ўзоры. Растлумач.

13 : 5 = 2 (аст. 3)



| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 : 2 | 10 : 3 | 11 : 3 | 16 : 3 |
| 7 : 3 | 10 : 4 | 11 : 4 | 16 : 5 |
| 7 : 4 | 10 : 6 | 11 : 5 | 16 : 9 |

**2.** Рашы ўраўненні.

$52 : x = 13$ $\qquad x : 15 = 6$ $\qquad x \cdot 30 = 90$

**3.**
- Даўжыня адной чацвёртай часткі адрэзка *AB* роўная 2 см. Начарці гэты адрэзак.
- Даўжыня адрэзка *CD* роўная 2 дм. Колькі сантыметраў у адной дзясятай частцы гэтага адрэзка?

**4.** Сястра старэйшая за пяцігадовага брата ў 3 разы і маладзейшая за маму ў 3 разы. У колькі разоў мама старэйшая за сына?

**5.** Састаў выраз да задачы.
Хлопчык чытаў па $a$ старонак кнігі кожны дзень ад панядзелка да суботы ўключна. У нядзелю хлопчык прачытаў апошнія 10 старонак кнігі. Колькі ўсяго старонак у кнізе?

**6.** Падумай, пры якім значэнні зменнай адказ да задачы 5 будзе самы вялікі. Правер вылічэннем.

| $a$ | 3 | 15 | 8 | 11 |
|---|---|---|---|---|

**7.** Здагадайся, які час паказваюць гадзіннікі. На якім цыферблаце вугал паміж гадзіннай і мінутнай стрэлкамі тупы?



Колькі застанецца цукерак, калі паміж 3 дзецьмі пароўну падзяліць 17 ледзянцоў?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
38 : 19 + 42 28 : 2 · 3 80 : 40 – 1

**2.** У пяці хакейных камандах гуляе 30 хлопчыкаў. Колькі хлопчыкаў гуляе ў сямі такіх камандах?

**!** Знайдзі астачу. Растлумач.



7 : 3 = 2 (аст. ?)

8 : 3 = 2 (аст. ?)

9 : 3 = ? (аст. ?)



Растлумач, чаму пры дзяленні на 3 астача не можа быць роўная 3; не можа быць большая за 3.

**Пры дзяленні астача павінна быць меншая за дзельнік.**

**1.** Пабудуй схемы. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 : 2 | 13 : 2 | 14 : 2 | 15 : 2 |
| 12 : 3 | 13 : 3 | 14 : 3 | 15 : 3 |

**!** Растлумач па рысунку, як выконваюць праверку дзялення з астачай.



$\underline{9 : 4 = 2 \text{ (аст. 1)}}$

$4 \cdot 2 + 1 = 9$

**2.** Правер, ці правільна выканана дзяленне з астачай.

| | |
|---|---|
| 19 : 2 = 9 (аст. 1) | 17 : 3 = 5 (аст. 2) |
| 26 : 7 = 3 (аст. 5) | 31 : 4 = 6 (аст. 3) |
| 41 : 6 = 5 (аст. 11) | 60 : 7 = 8 (аст. 4) |

3. Састаў і рашы ўраўненні.
   - Невядомы лік паменшылі на 51 і атрымалі 39.
   - Невядомы лік павялічылі на 26 і атрымалі 84.

4. Знайдзі значэнні выразу $21 + a : 15$ пры $a$, роўным 45; 60; 90.

5. Каб зрабіць рамонт у доме, купілі 88 дошак. Палову дошак узялі на рамонт падлогі ў пакоях, а 12 дошак — на рамонт падлогі на кухні. Колькі дошак засталося?

6. Даўжыня прамавугольніка — 24 см, а яго шырыня роўная $\frac{1}{3}$ частцы даўжыні. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

7. Іван разрэзаў квадратны ліст паперы са стараной 10 см на два прамавугольнікі. Перыметр аднаго прамавугольніка роўны 36 см. Знайдзі перыметр другога прамавугольніка.

Назаві, якая астача можа атрымацца пры дзяленні лікаў на 7.

1. Выканай дзяленне з астачай і праверку.
   44 : 8 73 : 9 70 : 8 85 : 9

2. Пасадзілі 48 сосен і ў 3 разы менш бяроз. Дубоў пасадзілі столькі, колькі сосен і бяроз разам. Колькі дубоў пасадзілі?

**1.** Выканай дзяленне з астачай.

9 : 6 8 : 5 37 : 3 50 : 8
46 : 5 49 : 8 58 : 10 31 : 10

Разважай так:
1. Знаходжу самы вялікі лік з лікаў, меншых за дзялімае, якое дзеліцца на дзельнік без астачы.
2. Дзялю гэты лік на дзельнік і запісваю рэзультат дзялення.
3. Вызначаю, колькі адзінак засталося непадзеленымі і запісваю астачу.

**2.**
- Якая астача можа атрымацца пры дзяленні лікаў на 3? На 5? На 7?
- Ці можа пры дзяленні на 8 у астачы атрымацца 6? 8? 9?

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

98 : 2 84 : 4 96 : 3 36 : 2
48 : 24 56 : 28 76 : 38 51 : 17

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 100 | 100 | $6 \cdot 13$ | $19 \cdot 2$ |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | $2 \cdot 19$ | $4 \cdot 18$ | $8 \cdot 7$ | $3 \cdot 11$ |

**5.** Састаў выразы.
- Лік 8 памножылі на невядомы лік.
- Невядомы лік павялічылі ў 5 разоў.
- Лік 56 падзялілі на невядомы лік.
- Невядомы лік паменшылі ў 2 разы.

**6.** Складзі і рашы задачу.
Складзі дзве адваротныя задачы.

| Расход тканіны на 1 сукенку (м) | Колькасць сукенак (шт.) | Агульны расход тканіны (м) |
|---|---|---|
| ? | 6 | 18 |

**7.** Ідучы па лесвіцы ў сваю кватэру, Даша налічыла 90 прыступак. На якім паверсе жыве Даша, калі для пад'ёму на адзін паверх трэба прайсці 18 прыступак?

**8.** Ля ўваходу ў паштовае аддзяленне ёсць схема, дзе зялёным колерам паказана, калі наведвальнікаў асабліва мала, і чырвоным колерам — калі наведвальнікаў асабліва многа.
Як гэта схема можа дапамагчы выбраць зручны час наведвання паштовага аддзялення?




**1.** Вылічы.

24 : 8    46 : 2    72 : 3
29 : 8    47 : 2    74 : 3

**2.** Калі чатыры дзясяткі літраў вады разлілі ў 15 аднолькавых збаноў, засталося 10 л вады. Колькі літраў вады змяшчаецца ў 10 такіх збанах?

## Трохзначныя лікі




| | |
|---|---|
| 1 сотня — сто | 100 |
| 2 сотні — дзвесце | 200 |
| 3 сотні — трыста | 300 |
| 4 сотні — чатырыста | 400 |
| 5 соцень — пяцьсот | 500 |
| 6 соцень — шэсцьсот | 600 |
| 7 соцень — семсот | 700 |
| 8 соцень — восемсот | 800 |
| 9 соцень — дзевяцьсот | 900 |
| 10 соцень — тысяча | 1000 |

**1.** Запішы сотні ў парадку нарастання і ў парадку спадання.

2 сот. 3 сот. 5 сот. 1 сот. 10 сот.
8 сот. 6 сот. 4 сот. 7 сот. 9 сот.

**2.** Прачытай круглыя двухзначныя лікі. Выпішы **трохзначныя** лікі.

13 0 40 9 600 11 500 90 100 15 700

**3.** Вылічы па ўзоры.

300 + 200 = 3 сот. + 2 сот. = 5 сот. = 500

400 – 300      200 + 500      600 + 400
800 + 100      800 – 500      100 + 900

**4.** Вусень можа за 2 г з'есці 4 лісты яблыні. Колькі лістоў можа з'есці вусень за 4 гадзіны? За 6 гадзін?

| Колькасць лістоў, з'едзеных за 1 гадзіну | Час | Уся колькасць з'едзеных лістоў |
|---|---|---|
| | 2 г | 4 лісты |
| аднолькавая | 4 г | ? |
| | 6 г | ? |

**5.** Майстар робіць 15 дэталей за гадзіну, а яго вучань — на 6 дэталей менш. Колькі дэталей яны робяць разам за 3 гадзіны?

**6.** Начарці адрэзак даўжынёй 6 см. Начарці другі адрэзак, трэцяя частка якога роўная палавіне першага адрэзка.

Назаві лікі, у якіх 2 сотні; 5 соцень; 10 соцень.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
$9 \cdot 9 : 3$      $8 \cdot 9 : 12$      $6 \cdot 8 : 12$

**2.** Перыметр трохвугольніка 12 см. Гэта на 12 см менш, чым перыметр квадрата. Якая даўжыня стараны квадрата?

!



| сот. | дзяс. | адз. |
|---|---|---|
| 2 | 3 | 6 |



| сот. | дзяс. | адз. |
|---|---|---|
| 2 | 3 | 6 |

| Адзінкі III разраду | Адзінкі II разраду | Адзінкі I разраду |
|---|---|---|
| 2 | 3 | 6 |
| сотні | дзясяткі | адзінкі |

**1.** Запішы лікі, у якіх:

4 сот. 2 дзяс. 7 адз.
5 сот. 8 дзяс. 0 адз.
3 сот. 0 дзяс. 0 адз.

6 сот. 6 дзяс. 6 адз.
9 сот. 0 дзяс. 1 адз.
10 сот. 0 дзяс. 0 адз.

**2.** Вылічы. Назаві колькасць адзінак I, II і III разрадаў.

200 + 800    444 + 1    519 + 1
1000 – 500    286 – 1    670 – 1

**3.** Іван гуляў на камп'ютары 25 мін, а чытаў кнігу на 10 мін менш за гадзіну. На што Іван затраціў больш часу? На колькі мінут больш?

**4.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.
Усе цукеркі «Суфле» раздалі дзецям пароўну. Па колькі цукерак атрымала кожнае дзіця?

| Назва цукерак | Колькасць цукерак у каробцы | Колькасць каробак | Колькасць дзяцей |
|---|---|---|---|
| «Мінскія» | 20 | 3 | 4 |
| «Суфле» | 25 | 2 | 5 |

**5.** Вось 4 рознакаляровыя каробкі з цукеркамі «Мінскія». Колькімі спосабамі можна раздаць па адной каробцы чатыром хлопчыкам?



Назаві адзінкі III разраду ў ліках.

309 471 847 125

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
99 : 33 14 · (77 – 72) 60 : 20 + 3 · 8

**2.** У бібліятэку прывезлі 24 крэслы, што на 18 больш, чым сталоў. У колькі разоў больш прывезлі крэсел, чым сталоў?

**!** Як знайсці значэнні зменнай, пры якіх няроўнасці будуць правільныя?

$3 \cdot a < 8$ $3 \cdot a > 8$

Разгледзь табліцу.

| $a$ | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| $3 \cdot a$ | 0 | 3 | 6 | 9 | 12 | 15 | 18 |

Растлумач, чаму пры $a$, роўным 0, 1 і 2 няроўнасць $3 \cdot a < 8$ будзе правільная.

Растлумач, чаму пры $a$, роўным 3, 4, 5 і 6 няроўнасць $3 \cdot a > 8$ будзе правільная.

Пры якіх яшчэ значэннях $a$ няроўнасць $3 \cdot a > 8$ будзе правільная?

**1.** Падбяры па тры значэнні $a$, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$4 \cdot a < 28$ $2 \cdot a > 7$ $a \cdot 5 < 96$
$24 : a < 15$ $a : 3 > 2$ $78 : a > 0$

**2.** Выканай дзяленне з астачай і праверку па ўзоры.

$3 : 5 = 0$ (аст. 3)
$5 \cdot 0 + 3 = 3$

$2 : 3$ $3 : 4$ $5 : 6$
$6 : 8$ $7 : 10$ $4 : 5$

**3.** У бібліятэку прывезлі 48 кніг у звязках, па 8 кніг у кожнай звязцы. Потым прывезлі яшчэ 3 такія ж звязкі кніг. Колькі ўсяго звязак кніг прывезлі?

**4.** Растлумач, што абазначаюць выразы.
Купілі 5 кароткіх шлангаў даўжынёй па $a$ метраў кожны і 8 доўгіх шлангаў па $b$ метраў кожны.

$a + b$ $\quad$ $a \cdot 5$ $\quad$ $8 - 5$

$b \cdot 8$ $\quad$ $b - a$ $\quad$ $a \cdot 5 + b \cdot 8$

**5.** Выберы рысунак. Рашы задачу.
Палавіна перыметра прамавугольніка *ABCD* роўная 12 дм. Даўжыня гэтага прамавугольніка ў 3 разы большая за яго шырыню. Знайдзі даўжыні старон прамавугольніка.




**6.** Колькі двухзначных лікаў можна саставіць з лічбамі 0, 2, 4, 6, 8, калі лічбы ў запісе ліку не паўтараюцца?

Падбяры па тры значэнні зменнай, каб няроўнасці былі правільныя.

$a \cdot 2 > 5$ $\quad$ $a \cdot 2 < 5$

**1.** Выканай дзяленне.

35 : 7 $\quad$ 98 : 7 $\quad$ 49 : 7 $\quad$ 84 : 7

**2.** У двух аўтобусах 56 пасажыраў. Калі з першага аўтобуса выйшла 10 пасажыраў, у ім засталося 14 пасажыраў. Колькі пасажыраў засталося ў другім аўтобусе, калі з яго выйшаў 1 пасажыр?

Каб вымяраць і параўноўваць масы лёгкіх прадметаў, выкарыстоўваюць адзінку масы — **грам**.

У 1 кілаграме 1000 грамаў.

**1 кг = 1000 г**

**1.** Што можа мець масу 10 г, а што — 10 кг?

лыжка цукру | вядро вады | аловак | гарбуз

скрынка са слівамі | адна цукерка | пакецік насення

**2.** Вызнач масу курыцы і масу кураняці.







**3.** Параўнай.

200 г + 700 г ? 1 кг
600 г + 400 г ? 5 кг
1 кг – 200 г ? 500 г

1 кг – 500 г ? 100 г + 200 г
1 кг – 900 г ? 600 г + 400 г
1 кг + 2 кг ? 1000 г + 1 кг

**4.** Вылічы па ўзоры.

220 + 140 = 22 дзяс. + 14 дзяс. = 36 дзяс. = 360

450 + 130    720 – 110    290 + 710
530 + 470    780 – 250    690 – 120

**5.** Рашы ўраўненні.

$x \cdot 20 = 60$    $5 \cdot a = 95$    $39 : c = 13$
$84 : x = 21$    $a : 12 = 3$    $c \cdot 12 = 96$

**6.** Падбяры па два значэнні зменнай $x$, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$x \cdot 20 < 60$ $\quad$ $84 : x > 21$ $\quad$ $x : 12 > 3$

$20 \cdot x > 60$ $\quad$ $84 : x < 21$ $\quad$ $x : 12 < 3$

**7.** Складзі і рашы задачу.

| Маса аднаго пакета (кг) | Колькасць пакетаў (шт.) | Маса ўсіх пакетаў (кг) |
|---|---|---|
| аднолькавая | 4 | 64 |
| | 5 | ? |

**8.** Смоўж прапоўз адлегласць ад рамонка да званочка, роўную 56 см. Потым павярнуў назад і прапоўз у адваротным напрамку 17 см. Затым ён зноў павярнуў і прапоўз да званочка 12 см. Якая адлегласць цяпер ад рамонка да смаўжа?



56 см

Колькі грамаў змяшчаецца ў адным кілаграме?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$17 \cdot 5 - 80 : 2$ $\quad$ $64 : 4 + 20 \cdot 3$

**2.** У трохвугольніка дзве стараны маюць аднолькавую даўжыню. Перыметр трохвугольніка 16 см, а трэцяя старана — 4 см. Якая даўжыня першай і другой старон трохвугольніка?

**1.** Запішы лікі, у якіх:

3 сот. 1 дзяс. 4 адз.
1 сот. 4 дзяс. 3 адз.
3 сот. 4 дзяс. 1 адз.
4 сот. 1 адз.
1 сот. 3 дзяс.
3 дзяс. 1 адз.

**2.** Вылічы.

500 – 300 + 1
400 + 600 – 1
600 – 500 + 30
320 + 410 – 30
960 – 520 – 1
470 + 150 + 80

**3.** Састаў усе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі ад 10 да 20.

$4 \cdot c < 50$ $2 \cdot c > 35$ $24 - c > 10$ $c : 2 > 6$

**4.** Выканай дзеянні.

75 г + 25 г + 900 г
720 г + 110 г + 170 г
780 г – 250 г + 470 г
40 г · 2
80 г : 2
80 г : 20 г

**5.** Растлумач, што абазначаюць выразы да задачы.
Пасадзілі 250 цыбулін чырвоных цюльпанаў і 120 цыбулін белых цюльпанаў. Цыбулін жоўтых цюльпанаў пасадзілі на *с* менш, чым чырвоных і белых разам.

$250 + 120$ $(250 + 120) - c$

**6.** Змяні ўмову задачы, каб яна рашалася так:
$(250 + 120) : c$.

**7.** Тата паглядзеў фільм пра жывёл і рэкламны ролік. Рэкламны ролік доўжыўся 5 мін, што складае $\frac{1}{6}$ частку ўсяго часу прагляду. Колькі мінут затраціў тата на прагляд фільма і рэкламнага роліка?

**8.** Начарці такі квадрат у сшытку. Правядзі адрэзак так, каб квадрат падзяліўся на 2 роўныя часткі. Зафарбуй $\frac{1}{2}$ частку квадрата.



**9.** Запішы па тры лікі, пры дзяленні якіх на 10 у астачы атрымліваецца:

5 2 8 0

**10.** Для пасадкі кустоў адвялі некалькі градак. Вучні разлічылі, што калі на кожную градку пасадзіць па 3 кусты, то для пасадкі ўсіх кустоў не хопіць 6 градак, а калі пасадзіць па 5 кустоў на градку, то застануцца незасаджанымі 4 градкі. Колькі кустоў хацелі пасадзіць вучні і на колькіх градках?

**1.** Вылічы.

53 г + 47 г + 900 г 710 г – 230 г + 520 г

**2.** За 2 г Павел можа з'ехаць з гары на лыжах 12 разоў. Колькі часу катаўся Павел, калі ён з'ехаў з гары 24 разы?

!

На 3 сукенкі пайшло 12 м тканіны, пароўну на кожную. Колькі такіх сукенак можна пашыць з 20 м тканіны?




Спачатку даведаемся, колькі метраў тканіны пайшло на адну сукенку.

Потым даведаемся, колькі сукенак можна пашыць з 20 м тканіны.




**1.** У 6 пакетаў рассыпалі 24 кг мукі, пароўну ў кожны пакет. Колькі такіх пакетаў трэба, каб рассыпаць 12 кг мукі?

| Маса пакета (кг) | Колькасць пакетаў (шт.) | Маса ўсіх пакетаў (кг) |
|---|---|---|
| аднолькавая | 6 | 24 |
| | ? | 12 |

Што даведаемся спачатку?




Што даведаемся потым?



**2.** Запішы рашэнне задачы выразам.
У магазіне за дзень прадалі $a$ пар дзіцячага абутку, што складае $\frac{1}{6}$ частку ўсяго прададзенага за дзень абутку. Колькі пар абутку было прададзена за дзень?

**3.** Перыметр квадрата роўны 12 дм. Прамавугольнік саставілі з двух такіх квадратаў. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

**4.** Параўнай.

5 м ? 50 дм
20 см ? 20 дм
5 м + 3 м ? 200 см + 600 см
10 м – 300 см ? 100 см + 6 м

**5.** Дапоўні да 1000 лікі: 340, 460, 650, 830.

**6.** Састаў і рашы ўраўненні.
- Лік 12 памножылі на невядомы лік і атрымалі 60.
- Невядомы лік паменшылі ў 10 разоў і атрымалі 7.

**7.** Тата за 4 мін распілоўвае бервяно на 2 часткі. За колькі мінут тата распілуе бервяно на 6 частак?

Купілі 4 алоўкі. Колькі каробак алоўкаў купілі, калі ў 2 аднолькавых каробках 8 алоўкаў?

**1.** Рашы ўраўненні.
$230 + x = 460$ $x \cdot 14 = 84$ $51 : y = 17$

**2.** Кавалак фанеры прамавугольнай формы мае даўжыню ў 4 разы большую за шырыню. Шырыня гэтага кавалка 5 дм. Знайдзі перыметр кавалка фанеры.

!



| сот. | дзяс. | адз. |
|---|---|---|
| 3 | 2 | 5 |

3 сот. 2 дзяс. і 5 адз. — разрадны састаў ліку 325.

**325 = 3 сот. 2 дзяс. 3 адз.**

Сума лікаў 300, 20 і 5 — сума разрадных складаемых ліку 325.

**325 = 300 + 20 + 5**

**1.** Вызнач разрадны састаў лікаў. Прадстаў лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

215 146 207 450 101 999

**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 100 + 70 + 4 | 300 + 24 – 1 | 676 – 606 |
| 829 – 20 – 9 | 576 – 70 + 1 | 303 + 20 |

**3.** Запішы лікі, у якіх:

68 дзяс. 70 дзяс. 53 дзяс. 2 адз. 20 дзяс. 2 адз.

**4.** Турысты чвэрць часу паходу ішлі пехатой, а астатні час плылі на байдарках. Увесь паход доўжыўся 20 дзён. Колькі дзён турысты ішлі пехатой? Колькі дзён турысты плылі на байдарках?

**5.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу.
Брат выйшаў са школы, а сястра з бібліятэкі насустрач адно аднаму адначасова. Да сустрэчы брат прайшоў 400 м, а сястра — 300 м. Якая даўжыня ўсяго шляху ад школы да бібліятэкі?




**6.** Палівачная машына за 2 г работы зрасходавала 36 л бензіну. На колькі гадзін ёй хопіць 72 л бензіну?

**7.** Максім, Вова і Толя гулялі ў футбол. Максім і Вова разам забілі 12 галоў, Вова і Толя — 20 галоў, Максім і Толя — 16 галоў. Колькі галоў забіў у вароты кожны хлопчык?

**?** Назаві разрадны састаў лікаў 385, 380 і 305.

**1.** Вылічы.
900 + 80 + 7　　　700 + 2 + 30　　　281 – 80

**2.** Маса двух аднолькавых мяхоў бульбы 100 кг, а маса такога ж меха бульбы і меха морквы 80 кг. Знайдзі масу меха морквы.

**1.** Вылічы па ўзоры.

$300 \cdot 2 = 3$ сот. $\cdot\ 2 = 6$ сот. $= 600$

$600 : 2 = 6$ сот. $: 2 = 3$ сот. $= 300$

$600 : 300 = 6$ сот. $: 3$ сот. $= 2$

| | | | |
|---|---|---|---|
| $200 \cdot 4$ | $100 \cdot 5$ | $2 \cdot 400$ | $3 \cdot 300$ |
| $800 : 4$ | $500 : 5$ | $800 : 2$ | $900 : 3$ |
| $800 : 200$ | $500 : 100$ | $800 : 400$ | $900 : 300$ |

**2.** Вылічы па ўзоры.

$130 \cdot 2 = 13$ дзяс. $\cdot\ 2 = 26$ дзяс. $= 260$

$260 : 2 = 26$ дзяс. $: 2 = 13$ дзяс. $= 130$

| | | | |
|---|---|---|---|
| $250 \cdot 2$ | $310 \cdot 3$ | $160 : 4$ | $840 : 2$ |
| $4 \cdot 120$ | $5 \cdot 110$ | $990 : 3$ | $720 : 6$ |

**3.** Вылічы па ўзоры.

$120 : 40 = 12$ дзяс. $: 4$ дзяс. $= 3$

| | | |
|---|---|---|
| $420 : 20$ | $360 : 90$ | $810 : 90$ |
| $480 : 40$ | $510 : 30$ | $540 : 60$ |

**4.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| $130 - 80 + 70$ | $150 - 60 + 400$ |
| $170 + 200 - 60$ | $190 - 20 - 70$ |
| $600 - 500 + 40$ | $140 - 30 + 800$ |
| $110 + 700 - 30$ | $300 + 200 + 100$ |
| $1000 - (560 - 60)$ | $(1000 - 900) - 6$ |

**5.** Тата старэйшы за сына ў 3 разы і на 24 гады. Колькі гадоў тату? Вызнач па схеме, якую частку складае ўзрост сына ад узросту таты.




**6.** Катар плыў ад вёскі да пасёлка супраць цячэння ракі 1 г 30 мін, а на адваротны шлях затраціў 70 мін. На які шлях яму спатрэбілася больш часу? На колькі мінут больш?

**7.** З дзвюх будак, адлегласць паміж якімі 690 м, выбеглі адначасова насустрач адзін аднаму два сабакі — Шарык і Мухтар. Да сустрэчы Мухтар прабег $\frac{1}{3}$ частку адлегласці. Колькі метраў прабег да сустрэчы Шарык?




Растлумач, як памножыць 410 на 2; як падзяліць 240 на 3; як падзяліць 180 на 30.

**1.** Вылічы.

200 · 2    800 : 2    930 : 3    120 : 20

**2.** У 9 аднолькавых слоіках 27 л кампоту. Колькі такіх слоікаў трэба для 51 л кампоту?

## Як параўнаць трохзначныя лікі?

1



5 4 1

541 > 325

2



3 4 1

341 > 325



3 2 5

3



3 2 4

324 < 325

4



3 2 5

325 = 325

Разважай так:

1. Параўноўваю сотні. Большы той лік, у якім больш соцень.
2. Калі соцень у адным ліку столькі ж, колькі ў другім, параўноўваю дзясяткі. Большы той лік, у якім больш дзясяткаў.
3. Калі дзясяткаў у адным ліку столькі ж, колькі ў другім, параўноўваю адзінкі. Большы той лік, у якім больш адзінак.

**1.** Параўнай.

784 ? 901 200 · 3 ? 300 · 2
593 ? 527 180 · 3 ? 900 : 2
962 ? 969 230 · 3 ? 130 · 7

**2.** Назаві па тры значэнні зменнай $m$, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$150 \cdot m < 450$ $\qquad$ $m \cdot 230 < 690$ $\qquad$ $m : 9 > 30$

**3.** Вылічы.

800 : 4 $\qquad$ 240 · 3 $\qquad$ 900 : 300 $\qquad$ 960 : 40

**4.** Вылічы па ўзоры.

320 : 16 = 32 дзяс. : 16 = 2 дзяс. = 20

480 : 16 $\qquad$ 450 : 15 $\qquad$ 680 : 17 $\qquad$ 900 : 18

**5.** З 96 м тканіны пашылі 6 аднолькавых тэнтаў. Колькі такіх тэнтаў можна пашыць з 320 м тканіны?

**6.** Ад дома да магазіна 300 м. Мама выйшла з дому, прыйшла ў магазін і ўспомніла, што забыла дома кашалёк. Мама вярнулася дадому, узяла кашалёк і зноў прыйшла у магазін. Колькі ўсяго метраў прайшла мама?

**7.** Выпішы назвы ўсіх адрэзкаў.




**?** Растлумач, як параўнаць лікі 542 і 540.

**1.** Параўнай.

394 ? 300 + 90 + 4 $\qquad$ 560 – 10 ? 540

786 ? 700 + 80 + 7 $\qquad$ 120 · 3 ? 430

**2.** У трох дамах 460 кватэр. У другім доме 120 кватэр, у трэцім доме ў 2 разы больш кватэр, чым у другім. Колькі кватэр у першым доме?

**1.** Запішы ўсе магчымыя трохзначныя лікі, выкарыстоўваючы лічбы 6, 8, 9. Адна і тая ж лічба ў запісе ліку не павінна паўтарацца. Прадстаў гэтыя лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $370 \cdot 2$ | $170 \cdot 5$ | $500 : 500$ | $630 : 7$ |
| $100 \cdot 7$ | $300 \cdot 3$ | $600 : 300$ | $840 : 20$ |
| $420 : 2$ | $600 : 6$ | $680 : 170$ | $660 : 60$ |

**3.** Дапоўні:

| | | |
|---|---|---|
| 400 г да 1 кг | 170 г да 200 г | 330 г да 400 г |
| 830 г да 1 кг | 570 г да 800 г | 260 г да 900 г |

**4.** Састаў усе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі 100, 240, 320, 405.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot ? < 600$ | $1 \cdot ? > 225$ | $20 + ? > 329$ |
| $300 : ? < 5$ | $? : 40 > 3$ | $640 : ? > 1$ |

**5.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.
Дзяніс і Віця правялі разам 3 г. Яны спачатку гулялі на камп’ютары, потым 30 мін глядзелі тэлевізар, а пасля гулялі ў двары. Колькі часу хлопчыкі гулялі ў двары?

**6.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу.
У аўторак музей наведала 360 чалавек, у сераду і чацвер — па 250 чалавек. Колькі чалавек наведала музей за гэтыя дні?

**7.** Дапоўні ўмову данымі з табліцы. Рашы задачу.
Маса бурага мядзведзя на 500 кг большая за масу тыгра, а маса тыгра на 50 кг меншая за масу цюленя. Знайдзі масу бурага мядзведзя.

| Леў | 230 кг |
|---|---|
| Цюлень | 300 кг |
| Белы мядзведзь | 990 кг |



**8.** Пеця напісаў некалькі сказаў пра жывёл, названых у задачы 7. Знайдзі, дзе ў яго сказах праўда, а дзе — няпраўда.
- Леў лягчэйшы за бурага мядзведзя.
- Цюлень лягчэйшы за льва.
- Леў лягчэйшы за тыгра.
- Леў лягчэйшы і за бурага мядзведзя і за тыгра.
- Белы мядзведзь цяжэйшы за цюленя і лягчэйшы за льва.

**9.** Перыметр прамавугольніка 18 см. Яго даўжыня большая за шырыню на 3 см. Знайдзі даўжыні старон прамавугольніка.

**1.** Вылічы.
720 : 9     720 : 90     $120 \cdot 5 + 4 \cdot 100$

**2.** У 4 пакеты рассыпалі 720 г дражэ, пароўну ў кожны пакет. Колькі такіх пакетаў трэба, каб рассыпаць 900 г дражэ?

Для вымярэння і параўнання вялікіх адлегласцей выкарыстоўваюць адзінку даўжыні — **кіламетр**.




У 1 кіламетры 1000 метраў.

**1 км = 1000 м**

**1.** Якія адзінкі даўжыні падыходзяць?

- Самалёт праляцеў 400 ... .
- Веласіпедыст праехаў 500 ... .
- Смоўж прапоўз 3 ... .
- Турысты прайшлі 16 ... .
- Таўшчыня кнігі 2 ... .
- Спартсмен скочыў у даўжыню на 700 ... .

**2.** Дапоўні:

400 м да 1 км
330 м да 400 м
570 км да 800 км
830 м да 1 км
170 м да 200 м
260 км да 900 км

**3.** Вылічы.

$910 : 7$
$6 \cdot 130$
$880 : 40$
$480 - 120 : 3$
$220 + 60 \cdot 2$
$150 \cdot 6 - 300$
$840 : 2 + 580$
$650 : 5 + 170$
$400 - 340 : 17$

**4.** Якая схема падыходзіць? Рашы задачу.
Паміж вёскамі Дамашы́ і Га́йна 7 км, а паміж вёскамі Дамашы́ і Лагаза́ адлегласць у 2 разы большая. Колькі кіламетраў паміж вёскамі Дамашы і Лагаза?




**5.** Перыметр прамавугольніка 92 см. Яго шырыня меншая за даўжыню на 12 см. Знайдзі даўжыні старон прамавугольніка.

**6.** Колькі зараз часу, калі гадзіннік спяшаецца на 15 мін?



**7.** У Рыты і Вольгі 16 цукерак. Рыта з’ела 5 цукерак, а Вользе далі 7 цукерак. У дзяўчынак цукерак стала пароўну. Колькі цукерак было ў кожнай дзяўчынкі спачатку?

**?** Колькі метраў утрымліваецца ў адным кіламетры?

**1.** Знайдзі значэнні выразу $20 - a : 70$, калі $a$ роўна 280; 350; 490; 770.

**2.** Для таго каб асушыць балота, трэба выкапаць канал даўжынёй 1000 м. Ужо выкапалі $\frac{1}{5}$ частку канала. Колькі метраў канала засталося выкапаць?

## Урок 89

За адну гадзіну пешаход прайшоў 5 км. Колькі кіламетраў ён пройдзе за 2 гадзіны, калі будзе рухацца раўнамерна: ні хутчэй, ні павольней?




**5 км · 2 = 10 км**

Шлях, пройдзены за ўвесь час руху, называюць **адлегласцю**.

Адлегласць вымяраецца ў адзінках даўжыні: **кіламетр** (км), **метр** (м), **дэцыметр** (дм), **сантыметр** (см).

Адлегласць, пройдзеную за адзінку часу пры раўнамерным руху, называюць **скорасцю**.

Скорасць вымяраецца ў адзінках скорасці: **кіламетр у гадзіну** (км/г), **метр у мінуту** (м/мін), **кіламетр у мінуту** (км/мін).

**1.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
Ад вёскі *A* да вёскі *B* веласіпедыст ехаў 3 г са скорасцю 15 км/г. Знайдзі адлегласць ад вёскі *A* да вёскі *B*.

| Скорасць (км/г) | Час (г) | Адлегласць (км) |
|---|---|---|
| 15 | 3 | ? |

Каб вызначыць адлегласць, трэба скорасць руху памножыць на час руху.

**2.** Маша ідзе ў школу са скорасцю 50 м/мін. Ад дома да школы яна даходзіць за 5 мін. Якая адлегласць ад дома да школы?

**3.** З адной трэці ўсяго ўраджаю яблыкаў зрабілі сок. Колькі кілаграмаў яблыкаў было сабрана, калі на сок пайшло 50 кг яблыкаў?

**4.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Невядомы лік павялічылі на 340 і атрымалі 1000.
- Лік 800 падзялілі на невядомы лік і атрымалі 160.

**5.** Параўнай.

$1000 - 400 \cdot 2$ ? $80 : 2 + 160$

$30 : 6 \cdot 20$ ? $100 + 10 + 1$

$(960 - 640) : 4$ ? $960 - 640 : 4$

$6 \cdot 130 - 130$ ? $650 - 50$

**6.** Выканай дзяленне з астачай.

$23 : 4$ $\quad$ $29 : 3$ $\quad$ $48 : 5$ $\quad$ $16 : 20$

Што абазначаюць запісы: 6 км/г; 200 м/мін?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$100 + 3 \cdot 19$ $\quad$ $200 + 4 \cdot 180$ $\quad$ $6 \cdot 130 + 220$

**2.** Адлегласць ад Мінска да Бараўлян складае трэцюю частку адлегласці ад Мінска да Лагойска. Колькі кіламетраў ад Мінска да Бараўлян, калі адлегласць ад Мінска да Лагойска роўная 42 км?




**1.** Колькі прамянёў?



**2.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
Адлегласць 320 км поезд прайшоў за 4 гадзіны. З якой скорасцю рухаўся поезд?

| Скорасць (км/г) | Час (г) | Адлегласць (км) |
| --- | --- | --- |
| ? | 4 | 320 |

Каб вызначыць скорасць руху, трэба адлегласць падзяліць на час руху.

**3.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
Скорасць матацыкліста 40 км/г. За які час ён зможа праехаць 120 км?

| Скорасць (км/г) | Час (г) | Адлегласць (км) |
| --- | --- | --- |
| 40 | ? | 120 |

Каб вызначыць час руху, трэба адлегласць падзяліць на скорасць руху.

**4.** Рашы задачу. Складзі дзве адваротныя задачы.
Касмічны карабель ляціць са скорасцю 490 км/мін. Якую адлегласць ён праляціць за 2 мін?

**5.** Вылічы.

900 : 300 · 110 600 : 12 + 500 + 5

800 : 200 · 220 900 : 15 + 3 + 600

**6.** • Выразі ў метрах. Выразі ў дэцыметрах.

100 см 300 см 500 см 600 см

• Выразі ў сантыметрах.

4 м 3 дм 7 см 8 м 7 дм 4 м 6 см

**7.** Замяні зорачкі лічбамі так, каб запісы былі правільныя.

2*4 < 224 48* > 486 *63 > 825

38* > 388 *57 < 291 94* < 943

**8.** У колькі разоў гадзінная стрэлка рухаецца павольней, чым мінутная?

Адлегласць — 50 км, час руху — 5 г. Растлумач, як знайсці скорасць руху.

**1.** Вылічы.

(120 – 40) · 4 (970 – 700) : 3 (300 – 50) : 50

**2.** Аўтобус быў у дарозе 5 г і ехаў са скорасцю 70 км/г. Якую адлегласць праехаў аўтобус?

**!** Прывезлі 15 кг пячэння ў каробках па 5 кг і столькі ж каробак з зефірам па 3 кг у кожнай. Колькі кілаграмаў зефіру прывезлі?




Спачатку даведаемся, колькі прывезлі каробак з пячэннем.

Потым даведаемся, колькі прывезлі кілаграмаў зефіру.




**1.** Пашылі аднолькавую колькасць сукенак і касцюмаў. На кожную сукенку пайшло па 5 м тканіны, а на кожны касцюм — па 9 м. На ўсе сукенкі пайшло 55 м тканіны. Колькі метраў тканіны спатрэбілася на ўсе касцюмы?

| Расход тканіны на 1 выраб (м) | Колькасць вырабаў (шт.) | Увесь расход тканіны (м) |
|---|---|---|
| 5 | аднолькавая | 55 |
| 9 | | ? |

Што даведаемся спачатку?




Што даведаемся потым?



**2.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.
Турысты за 5 гадзін прайшлі 25 км. З якой скорасцю ішлі турысты?

**3.** Вылічы.

210 : 3 + 360 : 60 150 · 2 + 14 · 5
170 · 5 + 5 · 30 30 · 6 + 720 : 120

**4.** Выканай дзеянні. Адказ выразі ў сантыметрах.

3 м 7 дм + 5 м 1 дм 6 м 8 дм – 4 дм
7 м 8 дм – 2 м 3 дм 4 м 9 дм + 5 м

**5.** Каб спячы пірог, трэба $\frac{1}{4}$ кг мукі. Ці можа мама спячы такі пірог, калі ў яе засталося:

$\frac{1}{5}$ кг мукі $\frac{1}{3}$ кг мукі $\frac{1}{2}$ кг мукі $\frac{1}{6}$ кг мукі ?

**6.** Галя і Марына адзначаюць свой дзень нараджэння 21 студзеня. Галі было 5 гадоў, калі нарадзілася Марына. Колькі гадоў будзе Марыне, калі Галя будзе ўдвая старэйшая?

Выберы выраз, які падыходзіць да задачы 1 на с. 56.

9 · (55 : 5) 9 + 55 : 5

**1.** Рашы ўраўненні.

$x - 140 = 250$ $600 : x = 120$ $x : 5 = 200$

**2.** Поезд праехаў 480 км за 6 гадзін. Вызнач, з якой скорасцю рухаўся поезд. Знайдзі, якую адлегласць поезд праедзе за 8 гадзін.

**1.** Параўнай.

970 – 400 ? 530 + 40
80 + 50 ? 250 – 70
970 – 50 ? 800 + 110
160 + 20 ? 300 – 120
320 – 110 ? 90 + 30
530 + 40 ? 700 – 140

**2.** Рашы ўраўненні.

$70 \cdot x = 420$
$320 : x = 8$
$x : 15 = 5$
$4 \cdot x = 720$
$x \cdot 360 = 720$
$240 : x = 12$

**3.** Знайдзі значэнні выразу $(1000 - 100 \cdot n) : 10$, калі $n$ роўна 2; 3; 4; 5.

**4.** Рашы задачу рознымі спосабамі.
Колькі рэйсаў павінна зрабіць машына, каб перавезці 480 скрынак з агуркамі і 360 скрынак з памідорамі, калі за адзін рэйс машына можа перавезці 120 скрынак?

**5.** Купілі аднолькавую колькасць набораў з алоўкамі і фламастарамі. Алоўкаў купілі 60 штук, па 12 алоўкаў у наборы. Колькі купілі фламастараў, калі ў кожным наборы іх было па 10?

**6.** Складзі і рашы задачу. Складзі 2 адваротныя задачы.

| Скорасць (км/г) | Час (г) | Адлегласць (км) |
|---|---|---|
| 80 | ? | 320 |

**7.** Складзі задачу, якая рашаецца так:
1) $20 \cdot 3 = 60$ (…)
2) $60 + 35 = 95$ (…)

**8.** Пеця зрабіў многа памылак. Знайдзі яго памылкі. Скажы правільна.

*Маса курыцы 4 дм*
*Даўжыня агароджы 66 л*
*Рост чалавека 170 км/г*
*Плошча старонкі 350 г*
*Ёмістасць вядра 10 л*

**9.** Колькі прамянёў маюць пачатак у пункце *A*?
У пункце *M*?







**10.** Адзнач у сшытку пункты *B* і *C*. Правядзі праз пункт *B* тры прамыя. Правядзі праз пункт *C* пяць прамых. Колькі прамянёў маюць пачатак у пункце *B*? У пункце *C*?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 80 · 4 | 3 · 70 | 400 · 2 | 6 · 40 |
| 140 : 2 | 360 : 18 | 350 : 50 | 930 : 30 |

**2.** Трыццаць літраў яблычнага соку разлілі ў трохлітровыя слоікі. Колькі літраў соку можна разліць у такую ж колькасць двухлітровых слоікаў?

**!** Як выканаць складанне трохзначных лікаў?






Разважай так:

1. Пішу сотні пад сотнямі, дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. Складваю адзінкі і пішу рэзультат пад адзінкамі.
3. Складваю дзясяткі і пішу рэзультат пад дзясяткамі.
4. Складваю сотні і пішу рэзультат пад сотнямі.
5. Чытаю адказ.

**1.** Вылічы і растлумач.

$$+\begin{array}{r}146\\ \underline{212}\end{array} \qquad +\begin{array}{r}134\\ \underline{532}\end{array} \qquad +\begin{array}{r}546\\ \underline{\phantom{5}32}\end{array} \qquad +\begin{array}{r}303\\ \underline{444}\end{array}$$

**2.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

71 : 8    28 : 6    5 : 7    14 : 30

**3.** Выканай дзеянні. Адказ выразі ў сантыметрах.

36 дм + 8 дм    2 м 4 дм 5 см + 1 м 2 см

47 дм + 1 м    5 м 44 см + 2 м 3 дм

**4.** Складзі ўсе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі ад 40 да 45.

$2 \cdot x < 85$    $10 \cdot x > 435$    $x \cdot 20 < 880$

**5.** З 540 кг свежых яблыкаў атрымалі сушаныя яблыкі. Іх маса роўная $\frac{1}{6}$ масы свежых яблыкаў. Потым сушаныя яблыкі расклалі пароўну ў 5 каробак. Знайдзі масу сушаных яблыкаў у адной каробцы.

**6.** Майстар можа за 3 г адрамантаваць 18 крэсел, а вучань майстра за той жа час рамантуе 9 крэсел. Колькі крэсел яны могуць адрамантаваць разам за 1 г?

**7.** Якой была адлегласць паміж прыстанямі, калі палову гэтай адлегласці катар прайшоў за 2 г са скорасцю 20 км/г?

**8.** Даўжыня аднаго звяна ломанай 20 см. Гэта $\frac{1}{3}$ частка даўжыні ўсёй ломанай. Знайдзі даўжыню ломанай.

**9.** Выберы рысунак, які падыходзіць да задачы 8.




Раскажы, як скласці ў слупок два трохзначныя лікі.

**1.** Запішы прыклады ў слупок і выканай дзеянні.
214 + 374 354 + 102 325 + 44

**2.** Даўжыня агарода прамавугольнай формы 12 м, а шырыня складае $\frac{1}{3}$ частку даўжыні. Якой даўжыні плот трэба паставіць вакол агарода?

**!** Як выканаць адніманне трохзначных лікаў?






Разважай так:

1. Пішу сотні пад сотнямі, дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. Аднімаю адзінкі і пішу рэзультат пад адзінкамі.
3. Аднімаю дзясяткі і пішу рэзультат пад дзясяткамі.
4. Аднімаю сотні і пішу рэзультат пад сотнямі.
5. Чытаю адказ: 123.

**1.** Вылічы і растлумач.

$$-\begin{array}{r}647\\ \underline{133}\end{array} \qquad -\begin{array}{r}459\\ \underline{235}\end{array} \qquad -\begin{array}{r}734\\ \underline{\phantom{0}21}\end{array} \qquad -\begin{array}{r}577\\ \underline{204}\end{array}$$

**2.** Выканай дзеянні. Адказ вырazі ў сантыметрах.

83 дм – 5 дм

72 дм – 1 м

8 м 9 дм 8 см – 5 м 6 см

7 м 67 см – 4 м 5 дм

**3.** Састаў ураўненні і рашы іх.

- Лік 120 памножылі на невядомы лік і атрымалі 480.
- Невядомы лік паменшылі ў 3 разы і атрымалі 270.

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Складаемае | 500 | 490 | 5 · 120 | 140 · 5 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 2 · 180 | 3 · 170 | 220 | 300 |

**5.** Пеця праплыў 30 м са скорасцю 15 м/мін. Колькі мінут ён плыў? Колькі метраў ён праплыў бы за гэты час, калі б паменшыў скорасць на 5 м/мін?

**6.** Складзі і рашы задачу.




**7.** Перыметр квадрата 32 дм, а даўжыня яго стараны 8 дм. Даўжыню стараны квадрата павялічылі на 4 дм. Знайдзі перыметр квадрата, які атрымаўся.

**8.** Задумалі трохзначны лік, аднялі двухзначны лік і атрымалі адзінку. Які лік задумалі?

Растлумач, як трэба аднімаць трохзначныя лікі ў слупок.

**1.** Рашы ўраўненні.

$7 \cdot x = 420$ $\quad x : 5 = 150$ $\quad x \cdot 3 = 720$

**2.** Мама за 2 гадзіны можа сабраць 20 конавак суніц, а Даша за той жа час можа сабраць 12 конавак. Колькі конавак суніц збяруць мама і Даша за адну гадзіну? За дзве гадзіны?






Разважай так:

1. Пішу сотні пад сотнямі, дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. Складваю адзінкі, атрымліваю 10. Пішу 0 пад адзінкамі, а адзін дзясятак запомню і дадам да дзясяткаў.
3. Складваю дзясяткі, атрымліваю 4. Дадаю яшчэ адзін дзясятак, атрымліваю 5 і пішу рэзультат пад дзясяткамі.
4. Складваю сотні, атрымліваю 4 і пішу рэзультат пад сотнямі.
5. Чытаю адказ: 450.

**1.** Паспрабуй спачатку выканаць складанне, пачынаючы з адзінак, а потым — пачынаючы з соцень. У якой паслядоўнасці зручней выконваць вылічэнні? Чаму?




**2.** Запішы ў слупок. Вылічы.

167 + 313　　721 + 179　　436 + 24

243 + 417　　245 + 455　　58 + 142

**3.** Рашы ўраўненні.

$840 - x = 200 \cdot 3$　　$a : 4 = 450 - 250$

$y + 420 = 180 + 500$　　$b - 160 = 900 : 3$

**4.** Выберы схему. Рашы задачу.
Турысты спачатку ішлі 3 гадзіны са скорасцю 5 км/г, а потым зрабілі прывал. Пасля прывалу яны былі ў дарозе 2 гадзіны і ішлі са скорасцю 6 км/г. Якую адлегласць прайшлі турысты за ўвесь час?







**5.** Плошча трохвугольніка складае 600 см$^2$. Плошча круга складае $\frac{1}{3}$ частку плошчы трохвугольніка. Плошча якой фігуры большая? На колькі квадратных сантыметраў большая?

**6.** Састаў выраз да задачы. Складзі другую задачу да гэтага выразу.
Прывезлі 500 кг бульбы, а цыбулі ў $a$ разоў менш. Колькі кілаграмаў бульбы і цыбулі прывезлі?

**7.** У цесляра 24 кг цвікоў і рычажныя вагі без гір. Як яму адмераць 9 кг цвікоў?



? Чаму складанне ў слупок пачынаюць з адзінак I разраду?

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
329 + 451 625 + 283 675 + 25

**2.** У васьмі мяхах 400 кг бульбы. Колькі кілаграмаў бульбы ў пяці такіх мяхах?

## Урок 96

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 314 + 121 | 964 – 713 | 154 + 45 |
| 413 + 257 | 545 – 323 | 473 – 51 |
| 729 + 171 | 888 – 404 | 261 + 39 |

**2.** Рашы ўраўненні.

$846 - x = 231$ $\qquad y + 425 = 876$ $\qquad b - 166 = 334$

**3.** Састаў усе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі ад 30 да 35.

$3 \cdot x < 95$ $\qquad 2 \cdot x > 65$ $\qquad x : 1 < 34$

**4.** Выберы схему. Рашы задачу.

Для вымошчвання дарожак выкарысталі 400 шэрых і чырвоных тратуарных плітак. Шэрых плітак было ў 3 разы больш, чым чырвоных. Колькі шэрых і колькі чырвоных тратуарных плітак выкарысталі?




**5.** Вызнач па табліцы, колькі кілаграмаў розных прадуктаў засталося ў школьнай сталовай. У колькі разоў больш засталося капусты, чым мукі?

| | Мяса (кг) | Мука (кг) | Крупы (кг) | Капуста (кг) | Малако (л) |
|---|---|---|---|---|---|
| Атрымана | 390 | 250 | 400 | 710 | 110 |
| Зрасходавалі | 290 | 220 | 350 | 650 | 90 |
| Засталося | ? | ? | ? | ? | ? |

**6.** Знайдзі значэнне велічыні, пятая частка якой роўная:

6 кг   7 кг   3 кг   10 кг

**7.** Начарці ў сшытку такі прамавугольнік. Правядзі 2 адрэзкі так, каб атрымалася 4 трохвугольнікі.




**8.** Вызнач плошчы фігур з дапамогай палеткі. Плошча якой фігуры большая?



**1.** Знайдзі значэнні выразаў і выканай праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 639 + 111 | 535 – 121 | 841 – 520 |
| 245 + 315 | 799 – 77 | 574 + 26 |

**2.** За 3 г было прададзена 350 л квасу. За першую гадзіну прадалі 120 л, і за трэцюю гадзіну — стольκі ж літраў квасу. Колькі літраў квасу было прададзена за другую гадзіну?

Растлумач, як можа начарціць прамавугольнік на паперы ў клетку.



Растлумач, як можа начарціць прамавугольнік на паперы без клетак.



**1.** Начарці ў сшытку прамавугольнік.



**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

236 + 321 429 + 210 – 307
732 – 521 56 + 37 + 707

**3.** Знайдзі ўсе значэнні зменнай $x$, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$542 + x < 545$ $\qquad$ $251 < 256 - x$

**4.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Да ліку 340 дадалі невядомы лік і атрымалі 830.
- Невядомы лік паменшылі на 190 і атрымалі 270.

**5.** Даўжыня прамавугольніка 6 см. Шырыня прамавугольніка складае $\frac{1}{3}$ частку яго даўжыні. Вылічы перыметр гэтага прамавугольніка.

**6.** Турысты ў першы дзень прайшлі 15 км, а ў другі дзень, рухаючыся з той жа скорасцю, — 25 км. Час руху склаў 8 г. Знайдзі скорасць руху турыстаў.

**7.** На лесапілцы машына за мінуту адпілоўвае ад бервяна кавалак даўжынёй 2 м. За колькі мінут будзе распілавана на такія кавалкі бервяно, даўжыня якога 10 м?

Закончы сказ.
«Прамавугольнік — гэта чатырохвугольнік, у якога ...».

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$231 + 312 + 321$ $\qquad$ $687 - 121 - 212$

**2.** Скорасць аднаго пешахода 4 км/г, а скорасць другога пешахода — 6 км/г. За які час кожны пешаход зможа прайсці 12 км?

**!** Прадалі 30 алоўкаў у наборах па 10 алоўкаў у кожным і столькі ж набораў фламастараў. Фламастараў было прададзена 36 штук. Колькі фламастараў было ў адным наборы?


30


36

Спачатку даведаемся, колькі прадалі набораў з алоўкамі.

Потым даведаемся, колькі фламастараў было ў адным наборы.




**1.** Купілі 20 кг бульбы ў чатырохкілаграмовых пакетах і столькі ж пакетаў цыбулі. Знайдзі масу аднаго пакета з цыбуляй, калі ўсяго купілі 30 кг цыбулі.

| Маса аднаго пакета (кг) | Колькасць пакетаў (шт.) | Маса ўсіх пакетаў (кг) |
|---|---|---|
| 4 | аднолькавая | 20 |
| ? | | 30 |

Што даведаемся спачатку?




Што даведаемся потым?



**2.** Медсястра ў бальніцы павінна дзяжурыць 12 г. Ужо прайшла шостая частка яе дзяжурства. Колькі гадзін адпрацавала медсястра? Колькі гадзін ёй засталося дзяжурыць?

**3.** Вылічы.

309 + 670     39 + 551     478 + 200 + 131

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

(36 : 12) · 8     45 : (75 : 15)     (14 · 6) : 12

(48 · 2) : 8     (12 · 5) : 2     72 : (42 : 14)

**5.** Начарці прамавугольнік *ABCD*. Правядзі адрэзак так, каб падзяліць яго на дзве роўныя часткі.

**6.** Пеця склаў з кубікаў фігуру і сфатаграфаваў яе. Знайдзі гэту фатаграфію.




Выберы выраз да задачы 1 на с. 70.

30 + 20 : 4     30 : (20 : 4)

**1.** Вылічы.

325 + 284     945 – 234     867 – 43

**2.** Таварны поезд быў у дарозе 2 г і праехаў 160 км. Пасажырскі поезд за той жа час праехаў 200 км. Скорасць якога поезда большая? На колькі кіламетраў у гадзіну большая?

!



$$\begin{array}{r} \dot{3}\,\dot{4}\,0 \\ -\ 1\,2\,4 \\ \hline 2\,1\,6 \end{array}$$

Развbooжай так:

1. Пішу сотні пад сотнямі, ... .
2. **Аднімаю адзінкі.** Ад 0 нельга адняць 4. Вазьму 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. Каб не забыць, пастаўлю кропку над гэтым разрадам.
   Адзін дзясятак — гэта 10 адзінак. Ад 10 аднімаю 4, атрымліваю 6. Пішу 6 пад адзінкамі.
3. **Аднімаю дзясяткі.** Ад 4 дзясяткаў мы ўзялі 1 дзясятак. Засталося 3 дзясяткі. Ад 3 аднімаю 2, атрымліваю 1. Пішу 1 пад дзясяткамі.
4. **Аднімаю сотні** ... .
5. Чытаю адказ: ... .

**1.** Паспрабуй выканаць адніманне, пачынаючы з адзінак, а потым — пачынаючы з соцень. У якой паслядоўнасці зручней выконваць вылічэнні? Чаму?

$$\begin{array}{r} 2\,\dot{5}\,0 \\ -\ 1\,3\,6 \\ \hline ?\,?\,? \end{array}$$

**2.** Вылічы.

750 – 434 530 – 317 409 – 225 605 – 123

**3.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.
- Рознасць лікаў 180 і 100 павяліч у 9 разоў.
- Дзель лікаў 480 і 60 павяліч на 26.
- Суму лікаў 380 і 40 паменшы ў 7 разоў.

**4.** Выканай дзяленне з астачай.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 17 : 3 | 82 : 9 | 100 : 30 | 12 : 15 |
| 25 : 6 | 47 : 4 | 120 : 100 | 25 : 30 |

**5.** Веласіпедыст ехаў ад вёскі Рамонкава да вёскі Прастаквашына 3 г са скорасцю 20 км/г. Назад ён ехаў са скорасцю на 5 км/г меншай. Колькі гадзін спатрэбілася веласіпедысту на зваротную дарогу?

**6.** У супермаркеце купілі джэм у слоіках па 200 г, усяго 600 г. Потым купілі яшчэ столькі ж слоікаў з дзіцячым пюрэ, усяго 450 г. Знайдзі масу аднаго слоіка з дзіцячым пюрэ.

**7.** Начарці два прамавугольнікі так, каб плошча аднаго з іх была большая за плошчу другога.

? Чаму адніманне ў слупок пачынаюць з адзінак I разраду?

**1.** Вылічы.

760 – 249 480 – 376 602 – 461

**2.** Пасадзілі 75 кустоў руж па 15 у кожным радзе і столькі ж радоў флёксаў. Колькі кустоў флёксаў пасадзілі ў кожным радзе, калі ўсяго іх пасадзілі 50?

**Як начарціць прамавугольнік з даўжынямі старон 5 см і 3 см?**




**1.** Начарці ў сшытку прамавугольнік з даўжынямі старон 4 см і 2 см. Пачні чарціць так, як паказана на ўзоры.



- Вылічы перыметр гэтага прамавугольніка.
- Знайдзі яго плошчу з дапамогай палеткі.

**2.** Вылічы.

240 – 25     609 – 58     440 – 101
534 + 126     338 + 71     205 + 365

**3.** Знайдзі ўсе значэнні зменнай $x$, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$847 > x + 842$     $348 - x > 344$     $582 + x < 587$

**4.** Параўнай.

2 м 4 дм ? 2 м 4 см     4 м 8 дм ? 40 дм
36 дм ? 3 м 6 см     2 м 4 см ? 23 дм

**5.** Састаў схему. Рашы задачу.
Чарапаха паўзе да морквы са скорасцю 4 м/мін. Ці паспее яна дапаўзці да морквы за 3 мін, калі адлегласць ад чарапахі да морквы 10 м?

**6.** Саша знайшоў у 2 разы больш грыбоў, чым Іра, а Вера ў 3 разы больш грыбоў, чым Іра. Колькі грыбоў знайшла Іра, калі ўсяго дзеці знайшлі 60 грыбоў?




**7.** Знайдзі заканамернасць і назаві прапушчаныя лікі.

? 20 40 ? ? 320 ? 81 27 ? ? 1

**8.** У веласіпедным коле 32 спіцы. Колькі прамежкаў паміж спіцамі?

**?** Дапоўні сказ.
«Каб начарціць прамавугольнік, трэба памятаць, што ўсе вуглы прамавугольніка — …, а яго супрацьлеглыя стораны …».

**1.** Рашы ўраўненні.
$340 : x = 20$ $y \cdot 4 = 480$ $609 - y = 248$

**2.** Рыбак раніцай выехаў з горада на рыбалку. Адлегласць ад горада да рэчкі 28 км. Да сямі гадзін раніцы рыбак ужо праехаў чвэрць усяго шляху. Колькі кіламетраў засталося ехаць рыбаку?

**1.** Вылічы.

452 + 344    567 – 245    249 + 331
750 – 418    348 + 461    809 – 568

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 320 · 3 | 960 : 2 | 2 · 450 | 750 : 3 |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 200 – 40 | 220 + 80 | 160 + 240 | 120 – 70 |

**3.** Знайдзі значэнні выразу 100 + $a$ : 50, калі $a$ роўна

350  400  450  500  650  900.

**4.** Параўнай.

$\frac{1}{2}$ г ? 50 мін    $\frac{1}{3}$ г ? 30 мін

$\frac{1}{5}$ дм ? 6 см    $\frac{1}{2}$ м ? 20 см

**5.** За адзін дзень першая машына робіць 12 рэйсаў, а другая — 8 рэйсаў. Першая машына зрабіла за рабочы тыдзень 60 рэйсаў. Колькі рэйсаў зрабіла за гэты час другая машына?

**6.** У нядзелю Коля правёў 1 г 20 мін з сябрамі ў дзіцячым парку. Чвэрць гэтага часу дзеці каталіся на аўтадроме і столькі ж часу правялі ў пакоі смеху. Астатні час дзеці каталіся на ролікавых каньках. Колькі часу дзеці каталіся на ролікавых каньках?

7. Слон ішоў са скорасцю 100 м/мін. Спачатку ён 3 мін ішоў да ракі, а потым 5 мін ішоў у адваротным напрамку з той жа скорасцю. Які шлях быў даўжэйшы? На колькі метраў даўжэйшы?

8. Начарці прамавугольнік з даўжынямі старон 3 см і 1 см. Вылічы яго перыметр.

9. Знайдзі плошчу фігур, калі плошча адной клеткі — 1 см$^2$.





1. Знайдзі прапушчаныя лікі.

| Складаемае | 486 | ? | 267 | 381 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | ? | 536 | 423 | 419 |
| Сума | 709 | 880 | ? | ? |

2. Першы лыжнік за 2 г праехаў 18 км, а другі лыжнік за 3 г — 24 км. Скорасць якога лыжніка большая? На колькі кіламетраў у гадзіну большая?

!



$$\begin{array}{r} + \begin{array}{r} 367 \\ 165 \end{array} \\ \hline 532 \end{array}$$

Дапоўні разважанне:
1. Пішу … .
2. Складваю адзінкі, атрымліваю 12. У ліку 12 адзін дзясятак і … . Пішу 2 адзінкі …, а 1 дзясятак … .
3. Складваю дзясяткі, атрымліваю … . Дадаю яшчэ 1 дзясятак, атрымліваю … . У гэтым ліку 1 сотня і … дзясяткаў. Пішу … пад дзясяткамі, а 1 сотню запомню, каб пасля дадаць да соцень.
4. Складваю сотні, атрымліваю … . Дадаю яшчэ 1 сотню, атрымліваю … . Пішу … пад сотнямі.
5. Чытаю адказ: … .

**1.** Вылічы.

154 + 629 418 + 423 265 + 557 197 + 333

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

70 · 6 – 200 450 : (30 · 3)
30 · (540 : 90) 400 – 25 · 2

**3.** Вырази ў мінутах.

2 г 2 г 5 мін 1 г 10 мін
3 г 1 г 30 мін 4 г 32 мін

**4.** Дапоўні ўмову задачы данымі з табліцы. Рашы задачу. З горада *A* ў горад *B* сям'я паехала па шашы на аўтамабілі, а з горада *B* у горад *C* плыла на цеплаходзе па рацэ. Які шлях быў карацейшы — па шашы ці па рацэ? На колькі кіламетраў карацейшы?

| | Скорасць руху | Час руху |
|---|---|---|
| Веласіпед | 200 м/мін | 2 мін |
| Аўтамабіль | 90 км/г | 3 г |
| Цеплаход | 40 км/г | 6 г |

**5.** Некалькі жоўтых кафельных плітак, кожная плошчай 100 см$^2$, маюць агульную плошчу 600 см$^2$. Агульная плошча такой жа колькасці сініх кафельных плітак складае 900 см$^2$. Знайдзі плошчу адной сіняй пліткі.

? Чаму пры складанні ў слупок спачатку складваюць адзінкі?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
568 + 254    126 + 785    69 + 475

**2.** Тата гуляў з сабакам 1 г 30 мін. Трэцюю частку гэтага часу ён затраціў на дарогу да парку і назад, а астатні час правёў з сабакам у парку. Колькі часу тата быў з сабакам у парку?

!




Дапоўні разважанне:

1. Пішу … .
2. **Аднімаю адзінкі.** Ад 2 нельга адняць 5. Вазьму 1 дзясятак з разраду … . Каб не забыць, пастаўлю кропку над … .
   1 дзясятак — гэта 10 адзінак. Дадаю яшчэ 2 адзінкі, атрымліваю … . Ад … аднімаю 5, атрымліваю … . Пішу … пад адзінкамі.
3. **Аднімаю дзясяткі**. У разрадзе дзясяткаў засталося 2 дзясяткі. Ад 2 нельга адняць 4. Вазьму 1 сотню з разраду … . Каб не забыць, пастаўлю кропку над … . Адна сотня — гэта 10 дзясяткаў. Дадаю яшчэ 2 дзясяткі, атрымліваю … . Ад 12 аднімаю 4, атрымліваю … . Пішу … пад дзясяткамі.
4. **Аднімаю сотні**. Ад … аднімаю …, атрымліваю … . Пішу … пад сотнямі.
5. Чытаю адказ: ... .

**1.** Вылічы.

834 – 552    717 – 433    325 – 291    846 – 375

**2.** Параўнай.

3 г 45 мін ? 220 мін　　　2 г 59 мін ? 199 мін

8 г 12 мін ? 500 мін　　　7 г 48 мін ? 460 мін

**3.** Выберы схемы. Рашы задачу.

Магазін атрымаў 960 пар абутку. Дзіцячага абутку было ў 3 разы менш, чым абутку для дарослых. Колькі пар дзіцячага абутку атрымаў магазін?










**4.** Запішы рашэнне задачы выразам. Знайдзі значэнні выразу, калі $c$ роўна 1; 2; 3.

Рыбак плыве на лодцы са скорасцю 5 км/г. Якую адлегласць ён праплыве за $c$ гадзін?

**5.** Галя запрасіла Івана на дзень нараджэння. У доме, у якім жыве Галя, 10 пад'ездаў па 36 кватэр у кожным. У якім пад'ездзе жыве Галя, калі нумар яе кватэры — 188?

Чаму пры адніманні ў слупок спачатку аднімаюць адзінкі?

**1.** Вылічы.

370 + 449 + 91　　　612 – 351　　　509 – 238

**2.** На выраб трох дэталей затрачваецца 39 мін. Колькі часу трэба затраціць на выраб пяці такіх дэталей?






Дапоўні разважанне:
1. Пішу … .
2. **Складваю адзінкі** … .
3. **Складваю дзясяткі** … .
4. **Складваю сотні**, атрымліваю … . Дадаю яшчэ 1 сотню, атрымліваю 10 соцень. 10 соцень — гэта 1 тысяча. Пішу 0 пад разрадам соцень, а 1 пад разрадам тысяч.
5. Чытаю адказ: … .

**1.** Вылічы.

344 + 656    518 + 482    935 + 65    667 + 333

**2.** Якія лічбы прапушчаныя? Узнаві запісы.

| + | − | + | + |
|---|---|---|---|
| *5* | 5*4 | *03 | *40 |
| 2*7 | *9* | 2** | 2*6 |
| 873 | 732 | 230 | 41* |

**3.** Устаў лікі, каб запісы былі правільныя.

? : 6 = 13 (аст. 3)    ? : 5 = 140 (аст. 1)

? : 4 = 16 (аст. 2)    ? : 120 = 6 (аст. 100)

**4.** Знайдзі $\frac{1}{4}$ частку гадзіны; $\frac{1}{2}$ частку гадзіны.

**5.** Пазнаёмся з рознымі спосабамі чытання часу, які паказваюць гадзіннікі:




12 г 15 мін

чвэрць першай




12 г 30 мін

палова першай




12 г 45 мін

без чвэрці гадзіна

**6.** Бульба варыцца $\frac{1}{3}$ частку гадзіны. Потым трэба яшчэ 5 мін, каб зрабіць пюрэ. Вечарам у чвэрць шостай Света пачала варыць бульбу. Колькі часу ёй спатрэбіцца, каб прыгатаваць пюрэ? А якой гадзіне яна зробіць пюрэ?

**?** Дапоўні сказ.
«10 соцень складаюць … тысячу».

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
72 + 928 367 + 633 152 + 345 + 503

**2.** Дзіма прачытаў 8 старонак. Гэта $\frac{1}{3}$ частка таго, што прачытала Таня. Колькі старонак прачыталі Дзіма і Таня разам?

# Урок 105

!






Дапоўні разважанне:

1. Пішу … .
2. **Аднімаю адзінкі**. Ад 0 нельга адняць 5. Трэба ўзяць 1 дзясятак з разраду дзясяткаў.
   У разрадзе дзясяткаў 0 дзясяткаў. Трэба ўзяць 1 сотню з разраду соцень.
   У разрадзе соцень 0 соцень. Вазьму 1 тысячу з разраду тысяч. 1 тысяча — гэта 10 соцень. Вазьму 1 сотню і перанясу ў разрад дзясяткаў. Застаецца 9 соцень.
   Адна сотня — гэта 10 дзясяткаў. Вазьму 1 дзясятак і перанясу ў разрад адзінак. Застаецца 9 дзясяткаў.
   Ад 10 адзінак аднімаю 5 адзінак, атрымліваю … .
3. **Аднімаю дзясяткі** … .
4. **Аднімаю сотні** … .
5. Чытаю адказ: ... .

**1.** Вылічы.

1000 – 345     1000 – 243     1000 – 406

**2.** Запішы значэнні выразаў.

400 – 33     2 · 500 – 49     200 – (500 – 370)

**3.** За 4 мін Косця прабег 600 м. Колькі метраў ён прабег бы за гэты час, рухаючыся са скорасцю на 30 м/мін большай?

**4.** У 15 г 20 мін пачаўся мультфільм, які доўжыўся 10 мін. А якой гадзіне мультфільм закончыўся?

**5.** На якім цыферблаце паказана, калі закончыўся мультфільм? Прачытай паказчыкі гадзіннікаў з дапамогай слоў «палова», «чвэрць».



**6.** Вылічы перыметр трохвугольніка з даўжынямі старон 5 см, 3 см і 6 см. Начарці любы трохвугольнік з такім жа перыметрам.

Дапоўні сказ.
«Адна тысяча — гэта … соцень».

**1.** Вылічы.

436 + 564          76 + 924          1000 – 481

**2.** За 3 г лыжнік прабег 51 км, а за наступныя 2 г ён прабег 28 км. На колькі кіламетраў у гадзіну змянілася яго скорасць?

**1.** Вылічы.

562 + 345     207 + 549     614 – 205

452 – 168     1000 – 334     159 + 841

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

$167 + 210 \cdot 3$     $279 + 180 \cdot 4$

$840 : 4 - 105$     $150 : 5 + 795$

$1000 - 680 : 20$     $180 \cdot 3 + 455$

$(920 - 430) : 7$     $3 \cdot (960 : 6)$

**3.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

78 : 15     59 : 28     86 : 20     3 : 7

78 : 36     86 : 42     96 : 46     30 : 54

**4.** Параўнай.

$480 : 2$ ? $480 : 4$     $120 \cdot 3$ ? $2 \cdot 120$

$36 + 36 : 2$ ? $(36 + 36) : 2$     $360 : 10$ ? $370 : 10$

$120 : 2 \cdot 1$ ? $120 \cdot 2 : 1$     $125 : 125$ ? $125 - 125$

**5.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 503 – 275 | 289 + 456 | 496 + 427 |
|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 400 – 272 | 376 + 169 | 713 – 437 |

**6.** Мікіта скачаў некалькі двухмінутных відэаролікаў, усяго на 12 мін прагляду. Паша скачаў столькі ж трохмінутных відэаролікаў. Колькі часу затраціць Паша на прагляд сваіх ролікаў?

**7.** У глядзельнай зале 300 месцаў у трох сектарах. У першым і трэцім сектарах 160 месцаў, пароўну ў кожным сектары. Колькі месцаў у кожным сектары?

**8.** Пашылі 15 палатак, расходуючы па 8 м тканіны на кожную. Колькі тэнтаў для палатак можна пашыць з такой жа колькасці тканіны, калі на кожны тэнт ідзе 3 м тканіны?

**9.** Паміж дамамі Міці і Пеці 800 м. Хлопчыкі выйшлі насустрач адзін аднаму. Міця прайшоў $\frac{1}{4}$ частку ўсёй адлегласці, а Пеця — 200 м. Якую адлегласць засталося прайсці хлопчыкам?

**10.** Скорасць поезда 80 км/г. Гэта ў 3 разы менш, чым скорасць верталёта. Якую адлегласць праляціць верталёт за 4 гадзіны?

**11.** Катар адышоў ад адной прыстані ў 16 г і прычаліў да другой у 18 г. Знайдзі скорасць катара, калі ён праплыў 72 км.

**12.** У 12 аднолькавых пакетаў расфасавалі 60 кг абрыкосаў. Колькі такіх пакетаў спатрэбіцца, каб расфасаваць 45 кг абрыкосаў?

**13.** Начарці прамавугольнік з даўжынямі старон 3 см і 4 см. Вылічы яго перыметр.

**14.** Перыметр квадрата 12 см. Начарці такі квадрат.

# Урок 109

Разгледзь малюнак. Растлумач запісы.



$(3 + 2 + 4) \cdot 2 = 9 \cdot 2 = 18$

$3 \cdot 2 + 2 \cdot 2 + 4 \cdot 2 = 6 + 4 + 8 = 18$

$(3 + 2 + 4) \cdot 2 = 3 \cdot 2 + 2 \cdot 2 + 4 \cdot 2$

Разгледзь малюнак. Растлумач вылічэнні.



?

$234 \cdot 2 = 200 \cdot 2 + 30 \cdot 2 + 4 \cdot 2 = 400 + 60 + 8 = 468$

**1.** Вылічы двума спосабамі. Растлумач.

$(6 + 4 + 2) \cdot 3$

$(30 + 1 + 1) \cdot 4$

$(40 + 20 + 3) \cdot 2$

$(20 + 10 + 30) \cdot 5$

**2.** Вылічы. Запісвай па ўзоры.

$213 \cdot 3 = 200 \cdot 3 + 10 \cdot 3 + 3 \cdot 3 = 600 + 30 + 9 = 639$

$324 \cdot 2$  $142 \cdot 2$  $212 \cdot 4$  $121 \cdot 4$

**3.** Вылічы.

$156 + (659 - 268)$

$854 - (480 + 120)$

$368 - 159 + 479$

$1000 - 257 - 368$

**4.** Рашы ўраўненні.

$120 \cdot x = 480$ $\quad$ $840 : x = 42$ $\quad$ $x : 5 = 150$

$x \cdot 13 = 260$ $\quad$ $x : 16 = 60$ $\quad$ $600 : x = 120$

**5.** За 3 г лыжнік праехаў 45 км. Колькі кіламетраў ён праедзе за 6 г, рухаючыся з той жа скорасцю?




**6.** Выберы выраз, які з'яўляецца рашэннем задачы. Знайдзі значэнне выразу, калі $c$ роўна 45.
У звязцы $c$ сшыткаў у клетку, а сшыткаў у лінейку ў 3 разы менш. Колькі ўсяго сшыткаў у звязцы?

$c \cdot 3$ $\quad$ $c : 3$ $\quad$ $c + c : 3$ $\quad$ $c + c \cdot 3$

**7.** Начарці два прамавугольнікі з перыметрам 12 см.

**8.** Лёша сагнуў з кавалка дроту квадрат са стараной 12 см. Затым разагнуў дрот і сагнуў з яго трохвугольнік з роўнымі старанамі. Знайдзі даўжыню стараны трохвугольніка.

? Растлумач, як памножыць 333 на 3.

**1.** Знайдзі значэнні выразу $212 \cdot a$, калі $a$ роўна 2; 3; 4.

**2.** Даўжыня кроку бацькі 80 см, а даўжыня кроку сына — у 2 разы меншая. Сын зрабіў 6 крокаў. Колькі метраў ён прайшоў?

**!** Разгледзь малюнак. Параўнай запісы рашэння.




$321 \cdot 3 = 300 \cdot 3 + 20 \cdot 3 + 1 \cdot 3 = 900 + 60 + 3 = 963$

Разважай так:

1. Множу 1 адзінку на 3, атрымліваю 3 адзінкі. Пішу 3 пад адзінкамі.
2. Множу 2 дзясяткі на 3, атрымліваю 6 дзясяткаў. Пішу 6 пад дзясяткамі.
3. Множу 3 сотні на 3, атрымліваю 9 соцень. Пішу 9 пад сотнямі.
4. Чытаю адказ: 963.

**1.** Вылічы.

$\times\begin{array}{r}113\\ 3\\ \hline\end{array}$ $\quad\times\begin{array}{r}232\\ 2\\ \hline\end{array}$ $\quad\times\begin{array}{r}143\\ 2\\ \hline\end{array}$ $\quad\times\begin{array}{r}312\\ 3\\ \hline\end{array}$

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

$720 : 6 \cdot 3 + 640$ $\qquad 250 \cdot 2 : 10 + 850$

$3 \cdot 180 - (860 - 489)$ $\qquad 860 : 2 - (170 + 150)$

**3.** Падбяры па пяць значэнняў зменнай, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$66 : b > 2$ $\qquad c \cdot 120 < 1000$ $\qquad 15 \cdot a > 20$

**4.** Выберы схему. Рашы задачу.
У дзвюх скрынках 180 памідораў. Колькасць памідораў у першай скрынцы складае палову памідораў у другой скрынцы. Колькі памідораў у кожнай скрынцы?




**5.** Слава за 5 мін праходзіць 400 м ад дома да музычнай школы. На якой адлегласці ад дома будзе Слава праз 2 мін ад пачатку руху?

**6.** А якой гадзіне прыбываюць электрычкі ў Маладзечна, калі час руху — 2 г?

| Адпраўленне | Прыбыццё |
|---|---|
| Мінск, 7.00 | Маладзечна, … |
| Мінск, 10.30 | Маладзечна, … |
| Мінск, 12.45 | Маладзечна, … |

**7.** Мама варыць варэнне са сліў. У яе ёсць рычажныя вагі і гіра на 100 г. Як за 3 узважванні яна можа адважыць 700 г цукру?

Растлумач, як памножыць 333 на 3 у слупок.

**1.** Вылічы.
112 · 4 213 · 3 332 · 3 131 · 2

**2.** Цеплаход прайшоў 150 км за 5 г. Колькі кіламетраў пройдзе гэты цеплаход за 2 г, калі яго скорасць не зменіцца?




Мінутная стрэлка робіць поўны круг за адну гадзіну.

Секундная стрэлка робіць поўны круг за адну мінуту.

**Секунда** — гэта адзінка часу.

1 мінута — гэта 60 секунд.

**1 мін = 60 с**

1. Саша рашаў прыклад 30 с, а глядзеў у акно на 20 с больш. Колькі секунд Саша глядзеў у акно?

2. Разгледзь запіс рашэння задачы. Фільм пачаўся ў 3 г дня, а закончыўся праз 2 г. А якой гадзіне закончыўся фільм?

   3 + 2 = 5 (г)

3. Запішы рашэнне задачы. Машына выехала з Мінска ў 7 г раніцы, а прыехала ў Віцебск праз 4 г. А якой гадзіне машына прыехала ў Віцебск?



**4.** Скорасць слабага ветру 4 м/с, што ў 8 разоў менш за скорасць ураганнага ветру. На колькі метраў у секунду скорасць ураганнага ветру большая за скорасць слабага ветру?

**5.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 269 + 539 | 724 – 245 | 269 + 157 + 431 |
| 367 + 283 | 900 – 667 | 943 – 368 + 222 |

**6.** Паменшы ў 4 разы лікі: 800, 160, 240, 200, 280.
Павяліч у 3 разы лікі: 112, 213, 331, 232.

**7.** Маса 4 пачкаў сметанковага масла 800 г. Знайдзі масу 3 пачкаў маргарыну, калі маса аднаго пачка маргарыну на 50 г большая за масу аднаго пачка масла.

**8.** Шырыня прамавугольніка 2 см, а яго даўжыня на 2 см большая. Начарці такі прамавугольнік. Вылічы яго перыметр.

? Колькі секунд змяшчаецца ў адной мінуце?

**1.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 386 + 539 – 764 | 268 + 121 · 2 |
| 269 + 157 + 431 | 231 · 3 + 307 |

**2.** У каробцы 48 пакецікаў чаю. Ці хопіць сям'і гэтага чаю на тыдзень, калі кожны дзень сям'я расходуе $\frac{1}{6}$ частку гэтых пакецікаў?

# Урок 112



Пеця кожную раніцу ўстае ў 7 г. Паміж 7 г у аўторак і 7 г у сераду праходзіць 24 г. Гэты адрэзак часу называюць **суткі**.

У 1 сутках 24 гадзіны.

**1 сут. = 24 г**

Раніца, дзень, вечар і ноч — гэта ЧАСТКІ СУТАК.

**1.** Колькі гадзін праходзіць паміж 13 г у сераду і 13 г у чацвер? Паміж 18 г у пятніцу і 18 г у нядзелю? Выразі ў сутках.

Колькі гадзін у 3 сутках? У 4 сутках?

Колькі сутак у 2 тыднях? У 5 тыднях?

**2.** Разгледзь запіс рашэння задачы. Урокі закончыліся ў 12 г дня, а пачаліся 4 г назад. А якой гадзіне пачаліся ўрокі?

$12 - 4 = 8$ (г)

**3.** Бабуля хоча пачаставаць унукаў пірагом у 5 г дня. На прыгатаванне пірага трэба 2 г. А якой гадзіне бабуля павінна пачаць гатаваць пірог?

**4.** Даша і Маша спаборнічалі ў бегу на 30 м. Маша прабегла дыстанцыю за 4 с, а Даша за 6 с. Чыя скорасць большая? Растлумач з дапамогай схемы, не вылічваючы.

**5.** Вылічы.

258 + 345    497 + 454    $214 \cdot 2$
428 + 564    690 – 385    $3 \cdot 132$

**6.** Рашы ўраўненні.

$70 : x = 35$    $y \cdot 2 = 360$    $50 \cdot z = 950$
$f \cdot 150 = 450$    $300 : m = 150$    $n \cdot 20 = 860$

**7.** Выканай дзяленне з астачай.

23 : 6    52 : 6    101 : 10    308 : 30
47 : 5    4 : 25    204 : 20    63 : 70

**8.** Выразі ў секундах.

5 мін    9 мін 9 с    3 мін 14 с
8 мін    2 мін 6 с    6 мін 40 с

**9.** Каця даходзіць да парку за 18 мін, а яе брат Ігар дабягае да парку і назад да дома не спыняючыся за 12 мін. У колькі разоў скорасць Каці меншая за скорасць Ігара?

Дапоўні сказ.
«У адных сутках — … гадзіны».

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

249 + (650 – 342)    $608 – 240 \cdot 2$
737 – (909 – 346)    348 + 930 : 3

**2.** Міша прайшоў 12 км са скорасцю 4 км/г, а Пеця — са скорасцю 3 км/г. Каму спатрэбіцца больш часу? На колькі гадзін больш?



Поўнач

Пачатак сутак



Поўдзень

Палавіна сутак

**1.** Які час паказваюць гадзіннікі? Колькі часу прайшло ад пачатку сутак — поўначы? Ад поўдня?



**2.** Разгледзь запіс рашэння задачы. Сям'я выехала з Мінска ў Полацк у 7 г, а прыехала ў 11 г. Колькі гадзін сям'я была ў дарозе?

11 − 7 = 4 (г)

**3.** Фільм пачаўся ў 18 г, а закончыўся ў 20 г. Колькі часу доўжыўся фільм?

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

854 – (324 + 295)   532 + 234 · 2

(487 + 513) – 683   (1000 – 241) – 357

**5.** Складзі розныя задачы, выкарыстоўваючы даныя з табліцы. Рашы адну задачу.

| | Каўбаса | Сасіскі | Сыр | Цукеркі |
|---|---|---|---|---|
| Купілі | 300 г | 500 г | 400 г | 1 кг |
| З'ела кацяня | 50 г | 120 г | 10 г | 0 г |
| З'ела шчаня | 100 г | 180 г | 90 г | 50 г |
| З'еў Пеця | 150 г | 200 г | 100 г | 100 г |
| Засталося | ? | ? | ? | ? |

**6.** Састаў усе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі ад 15 да 20.

$2 \cdot x < 37$ $\quad$ $10 \cdot x > 164$ $\quad$ $x : 3 < 10$

**7.** Чаму роўная другая частка сутак? Трэцяя частка сутак? Чацвёртая частка сутак?

? Як вылічыць, колькі часу прайшло ад 9 г да 12 г?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$716 - 218 + 402$ $\quad$ $297 + 213 \cdot 2$

$901 - 362 - 295$ $\quad$ $500 : 5 + 156$

**2.** Поезд ідзе ад аднаго горада да другога адны суткі. Шостую частку сутак поезд ужо знаходзіцца ў дарозе. Колькі гадзін засталося ехаць поезду?

## Урок 114

**1.** Выразі:
- у гадзінах: 3 сут.; 6 сут.; 4 сут. 9 г;
- у мінутах: 5 г; 8 г; 9 г 35 мін;
- у секундах: 4 мін; 5 мін; 3 мін 6 с.

**2.** Параўнай.

$\frac{1}{2}$ м ? 5 дм

$\frac{1}{3}$ г ? 20 мін

$\frac{1}{8}$ сут. ? 3 г

$\frac{1}{2}$ дм ? 50 см

$\frac{1}{5}$ мін ? 20 с

$\frac{1}{6}$ сут. ? 6 г

**3.** Выберы рашэнне. Вылічы.
Каця закончыла рашаць задачу ў 16 г 30 мін. А якой гадзіне Каця пачала рашаць задачу, калі ёй спатрэбілася для гэтага 15 мін?

1) 16 г 30 мін – 15 мін

2) 16 г 30 мін + 15 мін

**4.** На якім цыферблаце паказана, калі Каця пачала рашаць задачу? Скажы, які час паказаны на гадзінніках. Выкарыстай пры гэтым словы «палавіна», «чвэрць».



**5.** Урок пачаўся ў 10 г 5 мін, а закончыўся ў 10 г 50 мін. Колькі мінут доўжыўся ўрок?

**6.** Вартаўнік павінен дзяжурыць суткі. Чвэрць сутак ён ужо аддзяжурыў. Колькі часу засталося дзяжурыць вартаўніку?

**7.** Складзі і рашы задачу.

| Скорасць (км/г) | Час (г) | Адлегласць (км) |
|---|---|---|
| аднолькавая | 3 | 270 |
| | 5 | ? |

**8.** Вылічы.

$142 \cdot 2$ $\quad$ $525 + 296$ $\quad$ $7 \cdot 80 + 170$

$332 \cdot 3$ $\quad$ $612 - 538$ $\quad$ $340 + 80 \cdot 2$

**9.** Пры якіх значэннях зменнай $y$ няроўнасці правільныя?

$565 + y < 190 \cdot 3$ $\qquad$ $725 - y > 180 \cdot 4$

**10.** Колькі поўных абаротаў зробіць гадзінная стрэлка?

за суткі $\quad$ за тыдзень $\quad$ за красавік

**1.** Рашы ўраўненні.

$640 - x = 100 \cdot 3$ $\qquad$ $a : 4 = 450 - 425$

$y + 350 = 108 + 500$ $\qquad$ $b - 280 = 90 : 3$

**2.** Фільм пачаўся ў 3 г 15 мін. Фільм доўжыўся 1 г 30 мін. А якой гадзіне фільм закончыўся?

**!** Параўнай запісы рашэння.




326 · 3 = 300 · 3 + 20 · 3 + 6 · 3 =
= 900 + 60 + 18 = 978

Разважай так:

1. Множу 6 адзінак на 3, атрымліваю 18. У ліку 18 — 1 дзясятак і 8 адзінак. Адзінкі пішу пад адзінкамі, а 1 дзясятак запомню і пасля дадам да дзясяткаў.
2. Множу 2 дзясяткі на 3, атрымліваю 6 дзясяткаў. Дадаю яшчэ 1 дзясятак, які атрымаўся пры множанні адзінак. Атрымліваю 7 дзясяткаў, пішу 7 пад дзясяткамі.
3. Множу 3 сотні на 3, атрымліваю 9 соцень. Пішу 9 пад сотнямі.
4. Чытаю адказ: 978.

**1.** Паспрабуй спачатку выканаць множанне, пачынаючы з адзінак, а потым — пачынаючы з соцень. Растлумач, чаму пры пісьмовым множанні пачынаюць вылічваць з адзінак.




**2.** Запішы ў слупок. Вылічы.

214 · 3  324 · 3  216 · 4  117 · 3

**3.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 60 · 10 | 840 : 2 | 310 · 3 | 900 : 9 |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 12 · 8 | 64 : 2 | 550 : 5 | 4 · 13 |

**4.** Поезд выйшаў з Гомеля ў 17 г 15 мін і прыбыў у Мінск у 22 г 15 мін. Ад Гомеля да Мінска 320 км. Знайдзі скорасць руху поезда.

**5.** На якім гадзінніку паказаны час адпраўлення поезда з Гомеля, а на якім — час прыбыцця поезда ў Мінск? Прачытай паказанні гадзіннікаў з дапамогай слоў «палавіна», «чвэрць».



**6.** Састаў выраз, які будзе рашэннем задачы.
У $a$ аднолькавых кнігах з казкамі 640 старонак. У адной кнізе з вершамі 50 старонак. На колькі больш старонак у адной кнізе з казкамі, чым у адной кнізе з вершамі?

**7.** Машы і Каці разам 23 гады, Машы і Галі — 24 гады, Каці і Галі — 25 гадоў. Колькі гадоў кожнай дзяўчынцы?

Чаму пры множанні ў слупок спачатку множаць адзінкі І разраду?

**1.** Вылічы.
146 · 2 115 · 5 218 · 4 439 · 2

**2.** Спектакль закончыўся ў 22 г 30 мін, а доўжыўся 3 г 20 мін. А якой гадзіне пачаўся спектакль?

## Урок 116

**!** Параўнай запісы рашэння.

$123 \cdot 5 = 100 \cdot 5 + 20 \cdot 5 + 3 \cdot 5 =$
$= 500 + 100 + 15 = 615$



Дапоўні разважанні:
1. Множу 3 адзінкі на 5, атрымліваю 15. Пішу ... .
2. Множу 2 дзясяткі на 5, атрымліваю 10 дзясяткаў. Дадаю яшчэ 1 дзясятак, які атрымаўся пры множанні адзінак. Атрымліваю 11 дзясяткаў — гэта 1 сотня і 1 дзясятак. 1 дзясятак пішу пад дзясяткамі, а 1 сотню запомню і потым дадам да соцень.
3. Множу 1 сотню на 5, атрымліваю 5 соцень. Дадаю яшчэ 1 сотню, якая атрымалася пры множанні дзясяткаў. Атрымліваю 6 соцень. Пішу 6 пад сотнямі.
4. Чытаю адказ: ... .

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
$254 \cdot 3$ $368 \cdot 2$ $167 \cdot 4$ $3 \cdot 257$

**2.** Вылічы.
3 м 7 дм + 4 м 2 дм
6 м 15 см – 4 м 7 см
2 м 6 дм 4 см + 38 дм 2 см
9 м 54 см – 4 дм 8 см

**3.** Рашы ўраўненні.
$800 : x = 40$
$22 \cdot 2 = 1000 - k$
$361 + 639 = 2 \cdot n$
$30 \cdot y = 450$
$239 - 169 = m : 2$
$400 : 4 = t + 74$

**4.** Перадача «Навіны» закончылася ў 19 г 45 мін, а пачалася паўгадзіны назад. А якой гадзіне пачалася перадача?

**5.** Пеця праехаў на веласіпедзе 60 км са скорасцю 12 км/г. Колькі кіламетраў змог бы праехаць Пеця за гэты час, калі б яго скорасць была на 3 км/г большая?

**6.** Пабудуй прамавугольнік *MNOR*, у якога даўжыні старон у 2 разы большыя, чым у прамавугольніка *ABCD*. Знайдзі перыметры прамавугольнікаў.




**7.** Ад вёскі Дружная да пасёлка Вясёлы вядуць 4 дарогі, а ад пасёлка Вясёлы да гарадка Знакаміты — 3 дарогі. Колькімі дарогамі можна даехаць ад вёскі да гарадка?




Колькі соцень змяшчаецца ў ліках?

40 дзяс.   56 дзяс.   33 дзяс.

**1.** Вылічы.

122 · 7   253 · 3   2 · 268   4 · 234

**2.** У 3 класы паставілі 45 новых школьных сталоў, пароўну ў кожны клас. Потым з аднаго класа вынеслі 3 сталы, а з другога — 2 сталы. Колькі сталоў стала ў кожным класе?

**!** Купілі 3 пучкі радыскі, па 6 штук у кожным. Бабуля расклала ўсю радыску на талеркі, па 9 штук на кожную. Колькі талерак спатрэбілася?



Спачатку даведаемся, колькі ўсяго радыскі купілі.

Потым даведаемся, колькі талерак спатрэбілася.




**1.** Было 2 аднолькавыя кавалкі тканіны. З аднаго кавалка тканіны пашылі 12 кашуль. На кожную кашулю пайшло 4 м тканіны. З другога кавалка тканіны пашылі касцюмы. На кожны касцюм пайшло 6 м тканіны. Колькі пашылі касцюмаў?

| | Расход тканіны на 1 выраб (м) | Колькасць вырабаў (шт.) | Увесь расход тканіны (м) |
|---|---|---|---|
| Кашулі | 4 | 12 | аднолькавы |
| Касцюмы | 6 | ? | |

Што даведаемся спачатку?

Што даведаемся потым?



**2.** Вылічы. Растлумач.

233 · 4 128 · 3 402 · 2 209 · 3

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

590 – 96 : 4 + 246 1000 – 78 : 39 – 961

**4.** Рашы ўраўненні.

349 + $x$ = 1000 $y$ + 843 = 1000

1000 – $b$ = 111 $a$ – 614 = 386

**5.** У поўдзень Толя і Вася прыйшлі са школы і праз 2 г пайшлі разам на прагулку. А якой гадзіне Толя і Вася пайшлі на прагулку?

**6.** Верталёт вылецеў з аэрадрома ў 10 г. Да пасадкі ён праляцеў 600 км са скорасцю 300 км/г. А якой гадзіне верталёт прызямліўся?

**7.** Чатыры дзяўчынкі — Лена, Вольга, Рыта і Таня — удзельнічалі ў алімпіядзе па матэматыцы. Аказалася, што Лена рашыла задач больш за ўсіх — 8, Вольга менш за ўсіх — 5. Колькі ўсяго задач маглі рашыць усе дзяўчынкі?

Прышылі па 2 гузікі на 6 сукенак. Столькі ж гузікаў прышылі на блузкі па 4 гузікі на кожную. Колькі было блузак?

**1.** Вылічы.

127 · 3 2 · (145 + 264) 1000 – 99 : 3

**2.** Пеця праплыў 30 м са скорасцю 15 м/мін, а Віця за той жа час праплыў 40 м. Чыя скорасць большая? На колькі метраў у мінуту большая?

Дзядуля купіў 3 шклянкі малін па 80 г у кожнай. Усе маліны ён перасыпаў у 2 кубкі, пароўну ў кожны. Знайдзі масу малін у кожным кубку.



Спачатку даведаемся, колькі ўсяго грамаў малін купілі.

Потым даведаемся масу малін у адным кубку.




**1.** У рабочых было 2 аднолькавыя маткі дроту. Адзін маток разрэзалі на 6 частак па 12 м у кожнай частцы. Другі маток разрэзалі на 4 роўныя часткі. Якой даўжыні атрымалася кожная частка дроту з другога матка?

| | Даўжыня 1 часткі (м) | Колькасць частак (шт.) | Даўжыня матка (м) |
|---|---|---|---|
| I | 12 | 6 | аднолькавая |
| II | ? | 4 | |

Што даведаемся спачатку?




Што даведаемся потым?



**2.** Прывезлі 8 скрынак вінаграду па 5 кг у кожнай скрынцы. Увесь вінаград перасыпалі ў пакеты па 2 кг у кожны. Колькі пакетаў атрымалася?

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| $234 \cdot 2$ | $3 \cdot 323$ | $646 + 287 - 454$ |
| $205 \cdot 4$ | $2 \cdot 404$ | $397 - 259 + 862$ |

**4.** Знайдзі значэнні выразу $a \cdot 34$, калі $a$ роўна 3; 5; 7.

**5.** Складзі ўраўненні і рашы іх.

- Невядомы лік павялічылі ў 5 разоў і атрымалі 160.
- Лік 17 павялічылі ў некалькі разоў і атрымалі 68.

**6.** Здагадайся, чаму будзе роўная плошча зафарбаванай часткі квадрата.
Растлумач рашэнне.



У 4 пакетах было па 20 цукерак. Усе цукеркі падзялілі пароўну паміж 10 дзецьмі. Па колькі цукерак атрымала кожнае дзіця?

**1.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $141 \cdot 2$ | $131 \cdot 5$ | $6 \cdot 134$ | $5 \cdot 109$ |

**2.** У сталовую прывезлі 150 кг бульбы. Бульбы прывезлі ў 3 разы больш, чым морквы. Колькі ўсяго кілаграмаў бульбы і морквы прывезлі ў сталовую?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$283 \cdot 3$ $\quad$ $208 \cdot 4$ $\quad$ $5 \cdot 187$ $\quad$ $2 \cdot 356$

$474 \cdot 2$ $\quad$ $307 \cdot 3$ $\quad$ $5 \cdot 168$ $\quad$ $4 \cdot 175$

$333 \cdot 2$ $\quad$ $105 \cdot 8$ $\quad$ $7 \cdot 119$ $\quad$ $6 \cdot 109$

**2.** Вылічы.

$72 : 2 + 68 : 4$

$85 : 5 - 68 : 4$

$320 : 80 \cdot 1 + 97$

$420 : 60 : 1 + 0$

5 мін + 20 с

20 с + 40 с

14 мін 15 с + 20 с

10 с + 12 мін 1 с

**3.** Рашы ўраўненні.

$254 + x = 1000$

$z : 6 = 10 \cdot 10$

$100 : b = 1$

$y \cdot 80 = 400$

$a - 823 = 177$

$10 \cdot c = 5 \cdot 20$

**4.** Прачытай умову задачы. Растлумач выразы.
Геолагі былі ў экспедыцыі $a$ сутак у чэрвені і $b$ сутак у ліпені. За час экспедыцыі 5 дзён ішоў дождж.

$a + b$ $\quad$ $24 \cdot a$ $\quad$ $24 \cdot b$ $\quad$ $24 \cdot 5$ $\quad$ $24 \cdot a + 24 \cdot b$

**5.** Складзі і рашы задачу.

| | Скорасць (см/мін) | Час (мін) | Адлегласць (см) |
|---|---|---|---|
| Смоўж | 4 | аднолькавы | 20 |
| Жук | 120 | | ? |

**6.** У 12 спартыўных камандах па 8 дзяцей. Колькі атрымаецца каманд, калі ўсіх дзяцей размеркаваць па 6 чалавек у кожную каманду?

**7.** Дзімаваму дзядулю 70 гадоў. Ён на 25 гадоў старэйшы за Дзімавага бацьку. Самому Дзіму 15 гадоў. У колькі разоў Дзіма маладзейшы за свайго бацьку?

**8.** Даўжыня прамавугольніка ў 2 разы большая за шырыню. Перыметр гэтага прамавугольніка 18 см. Знайдзі даўжыні старон гэтага прамавугольніка.

**9.** Састаў роўнасці.







**10.** Маса трох жоўтых мячоў роўная масе чатырох чырвоных. Колькі жоўтых мячоў трэба ўзяць, кабураўнаважыць 12 чырвоных?



**1.** Параўнай.

$165 \cdot 5$ ? $3 \cdot 275$ $\qquad$ $3 \cdot 288$ ? $216 \cdot 4$

**2.** Пашылі 25 плашчоў. На кожны плашч пайшло 4 м тканіны. Колькі плашчоў можна пашыць з гэтай тканіны, калі расходаваць па 5 м на кожны плашч?

# Урок 120

Разгледзь малюнак. Растлумач вылічэнні.



$$246 : 2 = (200 + 40 + 6) : 2 = 200 : 2 + 40 : 2 + 6 : 2 =$$
$$= 100 + 20 + 3 = 123$$

**1.** Вылічы двума спосабамі. Растлумач.

$(6 + 9 + 12) : 3$ $\quad$ $(30 + 10 + 40) : 5$

$(60 + 20 + 4) : 4$ $\quad$ $(36 + 6 + 18) : 6$

**2.** Вылічы.

$824 : 2$ $\quad$ $844 : 4$ $\quad$ $999 : 3$ $\quad$ $684 : 2$

**3.** Рашы ўраўненні.

$545 : x = 1$ $\quad$ $x : 284 = 0$ $\quad$ $x \cdot 375 = 375$

**4.** Начарці прамавугольнік, даўжыні старон якога роўныя даўжыням адрэзкаў на рысунку.



**5.** У двух бітонах малака было пароўну. Малако з аднаго бітона пералілі ў 8 пяцілітровых збаноў. Малако з другога бітона пералілі ў 4 аднолькавыя вядры. Колькі літраў малака змясцілася ў кожным вядры?

**6.** Якая задача падыходзіць да кароткага запісу? Рашы задачу.

| Ёмістасць слоіка (л) | Колькасць слоікаў (шт.) | Ёмістасць усіх слоікаў (л) |
|---|---|---|
| аднолькавая | 5 | ? |
| | 6 | 18 |

- У 18 слоіках 6 л кампоту. Колькі такіх слоікаў трэба для 5 л кампоту?
- Колькі літраў кампоту ў 5 слоіках, калі ў 6 такіх слоіках 18 л кампоту?

**7.** Колькі часу была ў дарозе кожная электрычка?

| Адпраўленне | Прыбыццё |
|---|---|
| Мінск, 9.00 | Маладзечна, 11.00 |
| Мінск, 12.00 | Орша, 16 г 15 мін |
| Мінск, 15.00 | Барысаў, 16 г 30 мін |



Растлумач, як падзяліць 246 на 2.



**1.** Вылічы.

682 : 2    468 : 2    884 : 4    936 : 3

**2.** Гаспадыня прадала на рынку 6 мяхоў морквы па 40 кг у кожным, і столькі ж кілаграмаў буракоў у 8 аднолькавых мяхах. Колькі кілаграмаў буракоў было ў адным мяху?

**!** Разгледзь рысунак. Параўнай запісы рашэння.






963 : 3 = 900 : 3 + 60 : 3 + 3 : 3 = 300 + 20 + 1 = 321

Развабжай так:
1. Дзялю 9 соцень на 3, атрымліваю 3 сотні. Сотні падзялілі ўсе.
2. Дзялю 6 дзясяткаў на 3, атрымліваю 2 дзясяткі. Дзясяткі падзялілі ўсе.
3. Дзялю 3 адзінкі на 3, атрымліваю 1 адзінку. Адзінкі падзялілі ўсе.
4. Чытаю адказ: 321.

**1.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 264 : 2 | 336 : 3 | 848 : 4 | 628 : 2 |
| 442 : 2 | 636 : 3 | 484 : 4 | 936 : 3 |

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | |
|---|---|
| 521 + 197 – 578 | 246 + (1000 – 327) |
| (167 – 25) · 2 | 859 – 427 + 468 |
| 259 – (803 – 544) | 3 · (348 – 256) |

**3.** Выберы схему. Рашы задачу.
Палову шляху верталёт праляцеў за 3 г са скорасцю 240 км/г. Астатнюю адлегласць ён праляцеў за 4 г. З якой скорасцю верталёт праляцеў адлегласць, якая засталася?







**4.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.
Маса пустога вядра … . Гэта адна пятая частка масы вядра з яблыкамі. Знайдзі масу вядра з яблыкамі.




**5.** Леў прабягае 400 м са скорасцю 20 м/с. За які час леў зможа прабегчы гэту адлегласць? За які час прабяжыць гэту адлегласць Міця, калі будзе бегчы са скорасцю 4 м/с?

? Назаві разрадныя складаемыя ліку 639. Падзялі кожнае з іх на 3.

**1.** Вылічы.

663 : 3     448 : 4     268 : 2     396 : 3

**2.** Аўтобус выйшаў з Гродна ў 15 г 20 мін і прыбыў у Мінск у 20 г 30 мін гэтага ж дня. Колькі часу аўтобус быў у дарозе? Адказ выразі ў мінутах.

**!**

Параўнай запісы рашэння.



546 : 2 = (400 + 140 + 6) : 2 =
= 400 : 2 + 140 : 2 + 6 : 2 =
= 200 + 70 + 3 = 273

Разважай так:

1. **Дзялю сотні**.
   Дзялю 5 соцень на 2, атрымліваю 2 сотні.
   Множу 2 сотні на 2, атрымліваю 4 сотні. Столькі соцень падзялілі.
   Аднімаю 4 сотні ад 5 соцень, атрымліваю 1 сотню. Столькі соцень засталося падзяліць.
2. **Дзялю дзясяткі.**
   1 сотня і 4 дзясяткі — усяго 14 дзясяткаў.
   Дзялю 14 дзясяткаў на 2, атрымліваю 7 дзясяткаў.
   Множу 7 дзясяткаў на 2, атрымліваю 14 дзясяткаў.
   Столькі дзясяткаў падзялілі. Аднімаю 14 дзясяткаў ад 14 дзясяткаў, атрымліваю 0. Астача роўная нулю.
3. **Дзялю адзінкі**.
   Дзялю 6 адзінак на 2, атрымліваю 3 адзінкі.
   Множу 3 адзінкі на 2, атрымліваю 6 адзінак.
   Аднімаю 6 адзінак ад 6 адзінак, атрымліваю 0. Астача роўная нулю.
4. Чытаю адказ: 273.

## Урок 122

**1.** Вылічы.
364 : 2 755 : 5 756 : 3 724 : 2

**2.** Рашы ўраўненні.
$x - 87 = 276 : 2$ $541 - y = 339 : 3$
$167 + x = 892 : 4$ $y + 57 = 625 : 5$

**3.** Выберы схему. Рашы задачу.
На веласіпедзе дзядзька Міша даязджае да рэчкі за 3 г. Калі б ён ішоў пехатой са скорасцю 5 км/г, то яму прыйшлося б ісці 6 г. З якой скорасцю едзе дзядзька Міша на веласіпедзе?




**4.** У кафэ для прыгатавання кавы эспрэса зрасходавалі 250 г кавы, што складае трэцюю частку кавы, якая пайшла для прыгатавання кавы капучына. Ці хопіць для гэтага пяці пакетаў кавы вагой па 170 г кожны?

**5.** У гаспадыні 16 курэй. Курэй у 4 разы больш, чым гусей, і ў 2 разы менш, чым качак. Колькі ўсяго птушак у гаспадыні?

? Трэба падзяліць лікі 57 і 573 на 3. Назаві зручныя складаемыя, кожнае з якіх дзеліцца на 3.

**1.** Вылічы.
516 : 3 924 : 7 117 · 7 3 · 193

**2.** За 5 г станок-аўтамат можа зрабіць 350 дэталей. За які час гэты станок можа зрабіць 560 дэталей?

Два пешаходы адначасова выйшлі з вёскі ў супрацьлеглых напрамках. Скорасць першага пешахода 4 км/г, а скорасць другога — 6 км/г. На якой адлегласці адзін ад аднаго яны будуць праз 2 гадзіны?




Спачатку даведаемся, колькі кіламетраў прайшоў першы пешаход за 2 гадзіны.

Потым даведаемся, колькі кіламетраў прайшоў другі пешаход за 2 гадзіны.

Зараз можна даведацца, на якой адлегласці яны будуць адзін ад аднаго праз 2 гадзіны.




**1.** Два веласіпедысты адначасова выехалі з пасёлка ў супрацьлеглых напрамках. Іх скорасці 18 км/г і 15 км/г. Якая адлегласць была паміж імі праз 3 г?




**2.** У доме 150 двухпакаёвых кватэр і 125 трохпакаёвых. Колькі кватэр у трох такіх дамах?

**3.** Вылічы.

856 : 4 976 : 4 519 : 3 968 : 4

**4.** Вызнач, значэнне якога выразу большае і на колькі большае.
- Здабытак лікаў 125 і 5 ці іх дзель.
- Дзель лікаў 261 і 3 ці іх здабытак.

**5.** Выканай дзяленне з астачай.
85 : 12 77 : 5 79 : 23 9 : 14

**6.** Выпішы і рашы тыя ўраўненні, у якіх значэнне зменнай знаходзяць дзяленнем.

| | | |
|---|---|---|
| $x \cdot 7 = 140$ | $6 \cdot x = 360$ | $350 - x = 120$ |
| $x : 4 = 100$ | $84 : x = 21$ | $130 + x = 260$ |

**7.** На рысунку вялікая і маленькая фігуры, склееныя з кубікаў. Ці можна з такіх жа маленькіх фігур скласці вялікую?



Складзі задачу.




**1.** Выканай дзяленне, выкарыстоўваючы запіс «вуглом».
884 : 4 642 : 2 486 : 3 565 : 5

**2.** Бохан хлеба мае масу 1 кг. Што цяжэйшае — палова бохана ці чвэрць бохана? На колькі грамаў цяжэйшае?

# Урок 124

**!** Дзве машыны адначасова выехалі з запраўкі ў супрацьлеглых напрамках. Скорасць адной машыны была 40 км/г, а скорасць другой машыны — 60 км/г. Якая адлегласць будзе паміж машынамі праз 2 гадзіны?




Спачатку даведаемся, на колькі кіламетраў аддаляліся машыны за 1 гадзіну (скорасць аддалення).

Потым даведаемся, на якой адлегласці яны будуць адна ад другой праз 2 гадзіны.




**1.** Два верталёты адначасова вылецелі ў супрацьлеглых напрамках. Скорасць аднаго верталёта была 180 км/г, а скорасць другога — 220 км/г. На якой адлегласці яны будуць адзін ад другога праз 2 г?




**2.** Колькі кілаграмаў цукровых буракоў спатрэбіцца для атрымання 150 кг цукру, калі маса цукру складае шостую частку масы буракоў?

**3.** Выканай дзяленне.

864 : 4　　736 : 2　　891 : 3　　955 : 5

**4.** Складзі і рашы задачу.

<table>
<tr><th>Дзяцей у адной палатцы</th><th>Колькасць палатак</th><th>Дзяцей ва ўсіх палатках</th></tr>
<tr><td>3</td><td>12</td><td rowspan="2">аднолькава</td></tr>
<tr><td>?</td><td>9</td></tr>
</table>

**5.** Выпішы правільныя роўнасці.

111 = 666 : 6 — 80 · 3 = 2 · 50 + 70 · 2

246 = 246 · 0 — 950 : 5 = 25 · 4 – 180 : 2

**6.** Выканай дзеянні. Адказ вырazі ў гадзінах.

3 сут. 23 г + 4 сут. — 9 сут. 7 г – 4 сут. 7 г

**7.** Вылічы вусна.

199 + 201 — 127 + 429 + 271 — 195 + 88 + 412

Складзі задачу.




**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

(476 + 388) : 2 — (258 + 367) : 5

(439 – 267) · 4 — 3 · (535 – 317)

**2.** Ліфт можа перавозіць 4 дарослых, калі маса кожнага не больш за 90 кг. Ці зможа гэты ліфт перавезці 5 дарослых, калі маса кожнага 72 кг?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

326 : 2 + 598

1000 – 524 : 2

98 : 7 + 714 : 3

748 : 4 – 91 : 13

**2.** Рашы ўраўненні.

$x$ + 273 = 532

$n$ – 385 = 128

$y$ · 4 = 888

417 + $x$ = 639

4 · $y$ = 280

720 : $m$ = 90

**3.** Устаў прапушчаныя дзялімыя, каб атрымаліся правільныя запісы.

? : 6 = 9 (аст. 3)

? : 5 = 8 (аст. 4)

? : 9 = 9 (аст. 7)

? : 7 = 8 (аст. 6)

**4.** Параўнай.

3 сут. 12 г ? 84 г

10 сут. 1 г ? 240 г

4 сут. 1 г ? 100 г

2 сут. 12 г ? 60 г

**5.** Паміж двума пасёлкамі адлегласць 10 км. З гэтых пасёлкаў адначасова ў супрацьлеглых напрамках выехалі два веласіпедысты. На якой адлегласці яны будуць адзін ад аднаго праз 2 гадзіны, калі іх скорасці былі 12 км/г і 15 км/г?

**6.** Каб перамагчы ў камп'ютарнай гульні, трэба набраць 1000 ачкоў. Вася на першым этапе набраў 240 ачкоў, што на 60 ачкоў менш, чым на другім этапе. Колькі ачкоў засталося набраць Васю, каб перамагчы?

**7.** Начарці ломаную *MNOP* так, каб яе даўжыня была роўная 1 дм 2 см.

**8.** Дзве лодкі адплылі ад прычала ўверх і ўніз па рацэ. Лодка, якая плыла па цячэнні ракі, рухалася са скорасцю 8 км/г. Гэта ў 2 разы больш за скорасць лодкі, якая плыла супраць цячэння ракі. Якая адлегласць будзе паміж лодкамі праз 4 г?

**9.** А якой гадзіне электрычкі адпраўляюцца з Мінска, калі да Барысава электрычка едзе 1 г 40 мін?

| Адпраўленне | Прыбыццё |
|---|---|
| Мінск, … | Барысаў, 10 г 40 мін |
| Мінск, … | Барысаў, 8 г 50 мін |
| Мінск, … | Барысаў, 12 г 45 мін |

**10.** На вагах — 5 аднолькавых груш і 3 аднолькавыя яблыкі. Маса ўсіх фруктаў — 480 г. Знайдзі масу аднаго яблыка і адной грушы.





**1.** Вылічы. Выканай праверку.

428 : 2 591 : 3 648 : 4 695 : 5

**2.** У глядзельнай зале 300 месцаў у трох сектарах. Колькасць месцаў у першым сектары складае $\frac{1}{5}$ частку ўсіх месцаў. У другім сектары і трэцім сектары месцаў пароўну. Колькі месцаў у кожным сектары?

Параўнай запісы рашэння.

328 : 4 = (320 + 8) : 4 =
= 320 : 4 + 8 : 4 =
= 80 + 2 = 82



Развважай так:

1. **Дзялю сотні.** 3 сотні нельга падзяліць на 4 так, каб атрымаўся адназначны лік, большы, чым 0. Буду дзяліць сотні разам з дзясяткамі.
2. **Дзялю дзясяткі.** 3 сотні і 2 дзясяткі — 32 дзясяткі. Дзялю 32 дзясяткі на 4, атрымліваю 8 дзясяткаў. Множу 8 дзясяткаў на 4, атрымліваю 32 дзясяткі. Столькі дзясяткаў падзялілі.
   Аднімаю 32 дзясяткі ад 32 дзясяткаў, атрымліваю 0. Астача роўная нулю.
3. **Дзялю адзінкі**. 8 адзінак дзялю на 4, атрымліваю 2 адзінкі. Множу 2 адзінкі на 4, атрымліваю 8. Столькі адзінак падзялілі. Аднімаю 8 адзінак ад 8 адзінак, атрымліваю 0. Астача роўная нулю.
4. Чытаю адказ: 82.

**1.** Вылічы.
168 : 4 279 : 3 355 : 5 126 : 2

**2.** Знайдзі значэнні выразу $a$ : 6, калі $a$ роўна 246; 366; 846; 888.

**3.** Выканай дзяленне з астачай.

86 : 11 72 : 5 85 : 12 2 : 10

**4.** Колькі зараз часу, калі частка сутак, якая засталася, на 4 г меншая за тую, якая прайшла?

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.

Грузавая машына праехала 150 км. Гэта адлегласць склала $\frac{1}{3}$ частку таго шляху, што застаўся. Якую адлегласць засталося праехаць машыне?







**6.** Выразі скорасць жывёл у аднолькавых адзінках. Запішы значэнні скарасцей у парадку нарастання. Запішы значэнні мас у парадку спадання.

| | Зебра | Леў | Страус | Змяя |
|---|---|---|---|---|
| Скорасць | 1 км/мін | 80 км/г | 500 м/мін | 15 км/г |
| Маса | 300 кг | 250 кг | 130 кг | 3 кг |

Трэба падзяліць 287 на 7. Назавіце зручныя складаемыя, кожнае з якіх дзеліцца на 7.

**1.** Вылічы.

729 : 9 648 : 8 + 119 349 + 357 : 7

**2.** На куртку ідзе 3 м тканіны, а на плашч — 4 м. На колькі больш куртак, чым плашчоў, можна пашыць з 360 м тканіны?

**!** Параўнай запісы рашэння.

138 : 3 = (120 + 18) : 3 =
= 120 : 3 + 18 : 3 =
= 40 + 6 = 46



Разважай так:

1. **Дзялю сотні.** 1 сотню нельга падзяліць на 3 так, каб у дзелі былі сотні. Буду дзяліць 1 сотню разам з дзясяткамі.
2. **Дзялю дзясяткі.** 1 сотня і 3 дзясяткі — усяго 13 дзясяткаў. Дзялю 13 дзясяткаў на 3, атрымліваю 4. Множу 4 дзясяткі на 3, атрымліваю 12 дзясяткаў. Столькі дзясяткаў падзялілі.
   Аднімаю 12 дзясяткаў ад 13 дзясяткаў, атрымліваю 1 дзясятак. Столькі дзясяткаў засталося падзяліць.
3. **Дзялю адзінкі.** 1 дзясятак і 8 адзінак — 18 адзінак.
   Дзялю ... .
   Множу ... .
   Аднімаю ... .
4. Чытаю адказ: ... .

**1.** Вылічы.

268 : 4　　174 : 3　　134 : 2　　425 : 5

**2.** Замест зорачкі ўстаў лічбы так, каб няроўнасці былі правільныя.

$12* > 123$　　$5*4 < 52*$　　$*07 > 347$

$4* < 168 : 4$　　$5* < 108 : 2$　　$73* > 246 \cdot 3$

**3.** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні.

| Складаемае | 30 · 10 | 510 : 3 | 270 · 3 | 200 : 2 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 15 · 6 | 98 : 2 | 650 : 5 | 6 · 14 |

**4.** Света цяжэйшая за Васю на 15 кг, а Сяргей цяжэйшы за Васю на 25 кг. На колькі кілаграмаў Сяргей цяжэйшы за Свету?

**5.** На аўтамабілі з бацькамі дзеці даязджаюць да дачы за 2 г. Калі б дзеці ішлі з бацькамі пехатой са скорасцю 5 км/г, то ім прыйшлося б ісці да дачы 32 г. З якой скорасцю едзе аўтамабіль?

**6.** У 9 г ад прыстані ўверх і ўніз па рацэ адышлі два катары і ў 12 г спыніліся. На якой адлегласці былі катары адзін ад аднаго, калі іх скорасці былі 35 км/г і 37 км/г?

**7.** Разгледзь рысунак. Выпішы назвы востравугольных і тупавугольных трохвугольнікаў.




Трэба падзяліць 234 на 3. Назаві зручныя складаемыя, кожнае з якіх дзеліцца на 3.

**1.** Вылічы.

164 : 4 215 : 5 324 : 6 245 : 7

**2.** У садзе 132 грушы, а яблынь у 3 разы больш. Яблыні пасаджаны ў 6 радоў, пароўну ў кожным радзе. Колькі яблынь у адным радзе?

Параўнай запісы.





Як выканаць дзяленне з астачай?
Дапоўні разважанні:
1. **Дзялю сотні** ... .
2. **Дзялю дзясяткі** ... .
3. **Дзялю адзінкі** ... .
4. Чытаю адказ: 175 (аст. 2).

**1.** Выканай дзяленне з астачай.

487 : 2    658 : 5    565 : 4    165 : 4
547 : 2    329 : 4    258 : 5    275 : 3

**2.** Вылічы.

$222 : 3 \cdot 5$    $625 : 5 \cdot 2$    $1000 - 303 \cdot 3$
$186 \cdot 4 : 6$    $2 \cdot 476 : 7$    $134 \cdot 2 + 244 \cdot 3$

**3.** Складзі ўсе правільныя няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі 3, 11, 125, 100.

5 · ? < 480    ? · 6 > 253    390 : ? < 135

**4.** У школьным музеі народных рамёстваў 476 экспанатаў. Адну сёмую частку гэтых экспанатаў прынеслі бацькі, а астатнія сабралі самі вучні. Колькі экспанатаў сабралі вучні?

**5.** Складзі і рашы задачу.




**6.** У цяпліцах вырасцілі аднолькавую колькасць чырвоных і белых руж. Чырвоныя ружы развезлі ў 5 магазінаў па 156 руж у кожны. Белыя ружы развезлі ў 6 магазінаў, пароўну ў кожны. Па колькі белых руж прывезлі ў кожны магазін?

**7.** Алоўкам, даўжыня якога 15 см, можна правесці лінію даўжынёй 60 км. Якой даўжыні лінію можна правесці, спісаўшы 5 см такога алоўка?

Чаму пры дзяленні астача павінна быць меншая за дзельнік?

**1.** Выканай дзяленне з астачай.

439 : 6 217 : 5 128 : 3 659 : 5

**2.** Самалёт праляцеў 9 мін са скорасцю 15 км/мін, а наступныя 9 мін — са скорасцю 12 км/мін. Якую адлегласць праляцеў самалёт за ўвесь гэты час?

**1.** Вылічы.

486 : 2 655 : 5 564 : 4
548 : 2 328 : 4 255 : 5
426 : 6 968 : 4 526 : 2

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

724 : 4 + 249 631 – 369 : 9
521 + 826 : 2 (284 + 262) : 6
1000 – 624 : 4 378 : (541 – 538)

**3.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Лік 140 памножылі на невядомы лік і атрымалі 980.
- Невядомы лік паменшылі ў 20 разоў і атрымалі 50.
- Невядомы лік павялічылі на 245 і атрымалі 612.
- Ад ліку 999 аднялі невядомы лік і атрымалі 909.

**4.** Знайдзі $\frac{1}{8}$ частку даўжыні адрэзка, роўнага:
248 см; 272 см; 520 см; 744 см.

**5.** Знайдзі значэнні велічыні, $\frac{1}{6}$ частка якой роўная:
12 кг; 29 кг; 74 кг; 138 кг.

**6.** Са школы адначасова выйшлі Міця і Пеця. Скорасць Міці 80 м/мін, а скорасць Пеці 70 м/мін. Ці праўда, што яны ішлі ў супрацьлеглых напрамках, калі праз 5 мін адлегласць паміж імі была 600 м?

**7.** Поезд выехаў з Мінска ў Маскву апоўначы. А якой гадзіне поезд прыехаў у Маскву, калі ён быў у дарозе 10 г?

**8.** На якім гадзінніку паказаны час прыбыцця поезда ў Маскву, калі ўсе гадзіннікі спазняюцца на 15 мін?



**9.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

$(90 + 85) \cdot 3$ $\quad\quad$ $90 \cdot 3 + 85 \cdot 3$

**10.** Начарці ломаную, даўжыня якой роўная $\frac{1}{3}$ часткі перыметра квадрата са стараной 6 см.

**11.** Чатыры брыгады рамантуюць дарогу на чатырох участках. Знайдзі агульную даўжыню дарогі, калі сума даўжынь першага і другога ўчасткаў роўная 138 м, другога і трэцяга — 180 м, трэцяга і чацвёртага — 240 м, чацвёртага і першага — 162 м.

**1.** Вылічы.

438 : 6 $\quad$ 215 : 5 $\quad$ 126 : 3 $\quad$ 655 : 5

**2.** Спартсмен-гарналыжнік спускаўся з гары 16 мін са скорасцю 1 км/мін. З якой скорасцю яму трэба рухацца, каб прайсці гэту адлегласць за 8 мін?

# Урок 130

Два паязды адначасова выйшлі насустрач адзін аднаму з двух гарадоў і праз 2 г сустрэліся. Скорасць аднаго поезда — 80 км/г, а другога — 70 км/г. Знайдзі адлегласць паміж гарадамі.




Спачатку даведаемся, колькі кіламетраў прайшоў адзін поезд за 2 гадзіны.

Пасля даведаемся, колькі кіламетраў прайшоў другі поезд за 2 гадзіны.

Зараз можна даведацца, на якой адлегласці адзін ад аднаго яны былі перад паездкай 2 гадзіны назад, г. зн. адлегласць паміж гарадамі.




**1.** Два веласіпедысты адначасова выехалі з двух пасёлкаў і сустрэліся праз 3 г. Скорасць аднаго веласіпедыста — 16 км/г, скорасць другога — 14 км/г. Знайдзі адлегласць паміж пасёлкамі.




**2.** Выканай дзяленне з астачай.

269 : 4 175 : 3 135 : 2 426 : 5

**3.** Школа купіла 160 білетаў у цырк. Ці хопіць гэтых білетаў, каб у цырк схадзілі тры класы, па 23 вучні ў кожным класе, і пяць класаў, па 26 вучняў у кожным класе?

**4.** Паменшы лікі ў 6 разоў. 324 726 486 966

Паменшы лікі на 126. 286 312 561 823

**5.** Пры якім найбольшым значэнні $a$ няроўнасці правільныя?

$720 > a + 254$ $386 + a < 628$ $a \cdot 5 < 834$

**6.** Перыметр чатырохвугольніка роўны 44 дм. Лінія, што злучае дзве супрацьлеглыя вяршыні, дзеліць яго на два трохвугольнікі, перыметр якіх роўны 34 дм і 26 см. Знайдзі даўжыню гэтай лініі.



Складзі задачу.




**1.** Вылічы.

$186 \cdot 4 : 6$ $2 \cdot 476 : 7$ $134 \cdot 2 + 244 : 4$

**2.** Дзве машыны выехалі з гаража ў супрацьлеглых напрамках са скорасцю 40 км/г і 50 км/г. Знайдзі адлегласць паміж імі праз 2 г руху.

Два пешаходы адначасова выйшлі з двух пасёлкаў насустрач адзін аднаму і праз 2 г сустрэліся. Скорасць аднаго пешахода была 4 км/г, а скорасць другога — 6 км/г. Знайдзі адлегласць паміж пасёлкамі.




Спачатку даведаемся, на колькі кіламетраў зближаліся пешаходы за 1 г (скорасць збліжэння).

Пасля даведаемся, на якой адлегласці адзін ад аднаго былі пешаходы 2 г назад, г. зн. адлегласць паміж пасёлкамі.




**1.** З двух гарадоў адначасова насустрач адзін аднаму выехалі два паязды са скарасцямі 90 км/г і 100 км/г. Паязды сустрэліся праз 3 г. Знайдзі адлегласць паміж гарадамі.




**2.** Складзі і рашы задачу.



**3.** Урок доўжыцца 45 мін, а перапынак 10 мін. Другі ўрок пачаўся ў 8 г 55 мін. А якой гадзіне пачаўся першы ўрок?

**4.** Рашы ўраўненні.

$7 \cdot x = 462$ $\quad$ $786 : y = 3$ $\quad$ $a : 6 = 72$

**5.** Устаў прапушчаныя лікі.

75 : 2 = 37 (аст. ?) $\quad$ 109 : 4 = ? (аст. 1)

? : 3 = 49 (аст. 1) $\quad$ 102 : ? = 25 (аст. 2)

**6.** Параўнай.

$\frac{1}{4}$ м ? 25 см $\quad$ $\frac{1}{10}$ см ? $\frac{1}{5}$ см

$\frac{1}{6}$ г ? 10 с $\quad$ $\frac{1}{3}$ г ? $\frac{1}{4}$ г

**7.** Рознасць двух лікаў роўная 57. Калі ў памяншаемым закрэсліць лічбу адзінак, якая роўная 3, то атрымаем аднімаемае. Знайдзі гэтыя лікі.

Складзі задачу.




**1.** Сastaў выразы і знайдзі іх значэнні.
- Рознасць лікаў 156 і 105 павяліч у 8 разоў.
- Дзель лікаў 540 і 90 павяліч на 320.

**2.** Чвэрць гадзіны Косця чытаў кнігу і ў 4 разы больш часу гуляў у двары. Колькі мінут патраціў Косця на чытанне і прагулку?

!

Для вымярэння і параўнання масы цяжкіх прадметаў выкарыстоўваюць адзінку масы — **тону**.

У 1 тоне 1000 кілаграмаў.

**1 т = 1000 кг**

**1.** У якой жывёлы маса можа быць 1 т, а ў якой — 1 кг?





**2.** Прывезлі 75 машын бульбы па 3 т на кожнай. Пятую частку бульбы выгрузілі. Колькі тон бульбы выгрузілі?

**3.** Складзі і рашы задачу.

<table>
<tr><th>Вучняў у адным класе</th><th>Колькасць класаў</th><th>Усяго вучняў</th></tr>
<tr><td>23</td><td rowspan="2">аднолькавая</td><td>69</td></tr>
<tr><td>18</td><td>?</td></tr>
</table>

**4.** Вучань можа напісаць 45 літар за мінуту. Колькі слоў ён напіша за 5 мінут, калі ў кожным слове 5 літар?

**5.** Параўнай.

800 кг ? 1 т  1 т ? 1000 кг  1 т ? 1000 г

$\frac{1}{2}$ т ? 500 кг  $\frac{1}{5}$ т ? 300 кг  $\frac{1}{5}$ т ? $\frac{1}{2}$ т

**6.** Знайдзі значэнні выразаў.

525 : 7  (180 + 200) : 5  7 · (270 – 230)

612 : 4  280 + 3 · 50  800 – 490 : 7

**7.** Рашы ўраўненні.

$480 + x = 990$  $b - 91 = 49$  $x \cdot 4 = 960$

$c + 83 = 154$  $d - 370 = 540$  $400 : k = 80$

**8.** Колькі прамянёў на рысунку?




**9.** З двух гарадоў адначасова насустрач адзін аднаму выехалі два паязды са скарасцямі 90 км/г і 100 км/г. Паязды сустрэліся праз 3 г. Знайдзі адлегласць паміж гарадамі.

**10.** У класе 35 вучняў. Ці праўда, што сярод іх знойдзецца хаця б два вучні, прозвішчы якіх пачынаюцца з адной літары?

Колькі кілаграмаў змяшчаецца ў адной тоне?

**1.** Знайдзі пятую частку: 225 м; 1 г; 1 т; 775 $см^2$.

**2.** Пасажырскі поезд за 4 г праходзіць 240 км. Скоры поезд ідзе са скорасцю 90 км/г. На колькі кіламетраў у гадзіну больш праязджае скоры поезд, чым пасажырскі?

**1.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

537 : 4    956 : 6    472 : 3    893 : 4
721 : 4    542 : 3    654 : 5    363 : 9

**2.** Дапоўні да тоны.

356 кг    502 кг    2 кг    999 кг
420 кг    615 кг    888 кг    999 кг 1 г

**3.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| Памяншаемае | 219 : 3 | ? | 62 · 2 | ? |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 57 | 475 : 5 | ? | 21 · 3 |
| Рознасць | ? | 413 : 7 | 144 : 3 | 594 : 6 |

**4.** Голуб і верабей паляцелі са сваіх гнёзд насустрач адзін аднаму і праз 2 г сустрэліся. Скорасць голуба была 80 км/г, а скорасць вераб'я ў 2 разы меншая. Знайдзі адлегласць паміж гнёздамі голуба і вераб'я.




**5.** Дапоўні ўмову задачы данымі і адказам задачы 4. Рашы задачу.

Голуб і верабей вылецелі са сваіх гнёзд у супрацьлеглых напрамках. Якая адлегласць будзе паміж імі праз паўгадзіны?

**6.** Маса трох аднолькавых машын з бульбай 4 т, а маса трох такіх машын з бульбай і адной машыны з морквай 5 т. Знайдзі масу машыны з морквай.

**7.** Які час будуць паказваць гадзіннікі праз 4 г 45 мін?



**8.** Поезд Мінск—Гомель адпраўляецца ў 6 г 30 мін. А якой гадзіне трэба выйсці з дому, каб паспець на поезд, калі дарога ад дома да вакзала займае 15 мін, а на пасадку ў поезд трэба 5 мін?

**9.** У запісе 5555 пастаў паміж некаторымі лічбамі знак «+» так, каб атрымаліся выразы, значэнні якіх роўныя: 20; 110; 560.

**1.** Выканай дзяленне з астачай.

187 : 6 498 : 7 556 : 5 667 : 6

**2.** У 15 г 30 мін з двух гарадоў адначасова выйшлі насустрач адзін аднаму два паязды. Паязды сустрэліся ў 19 г 30 мін. Скорасць першага поезда — 90 км/г, а другога — 70 км/г. Якая адлегласць паміж гарадамі?

## Паўтарэнне за 3 клас

**1.** Запішы лікі, якія змяшчаюць:

- 5 адз. III разраду 3 адз. II разраду 5 адз. I разраду;
- 3 адз. III разраду 7 адз. II разраду 9 адз. I разраду;
- 1адз. III разраду 9 адз. II разраду 1 адз. I разраду;
- 2 адз. III разраду 0 адз. II разраду 9 адз. I разраду.

**2.** Колькі адзінак трэцяга, другога і першага разрадаў у кожным ліку?

323 610 100 505 909 109

**3.** Вылічы.

200 + 500 – 600
150 – 70 – 30
100 + 800 – 900
180 – 90 – 10

**4.** Вылічы.

(720 – 200) + 40
100 + (1000 – 800)
(610 – 100) + 10
(500 + 100) – 1

**5.** Знайдзі значэнні выразаў.

47 + 60
35 + 90
800 – 30
700 – 90
670 + 30
200 + 480

**6.** Вылічы. Зрабі праверку.

326 + 231
711 + 112
569 + 311
214 + 385
882 – 366
690 – 367
540 – 318
951 – 643

**7.** Вылічы.

$23 \cdot 7 + 210$
$120 : 40 + 310$
$3 \cdot 42 - 50$
$3 \cdot 90 - 100$
$240 : 3 + 420$
$5 \cdot 30 + 160$

**8.** Устаў прапушчаныя лікі.

| 500 | |
|---|---|
| 140 | ? |
| ? | 280 |
| 330 | ? |
| ? | 410 |

| 700 | |
|---|---|
| ? | 305 |
| 524 | ? |
| ? | 523 |
| 306 | ? |

| 900 | |
|---|---|
| 294 | ? |
| ? | 417 |
| 589 | ? |
| ? | 730 |

| 1000 | |
|---|---|
| ? | 282 |
| 451 | ? |
| ? | 624 |
| 845 | ? |

**9.** Устаў прапушчаныя лікі.

320 + 400 – ? = 390
770 – 20 – ? = 730
690 – 50 – ? = 610

560 + 300 – ? = 57
440 + 30 + ? = 480
80 + 60 + ? = 840

**10.** Знайдзі значэнні выразаў.

84 · 1
84 : 1
84 : 84

512 · 1
512 : 1
512 : 512

63 · 1 : 1
908 : 1 · 1
777 : 1 · 0

**11.** Рашы ўраўненні.

$70 \cdot x = 210$
$y : 30 = 9$

$80 \cdot y = 240$
$150 : x = 3$

$x \cdot 60 = 180$
$240 : y = 3$

**12.** Вылічы і выканай праверку.

152 · 3
428 : 2
348 : 4

318 · 2
696 : 3
456 : 8

236 · 4
636 : 3
960 : 4

235 · 3
124 : 2
850 : 5

**13.** Выканай дзяленне з астачай.

429 : 2 698 : 3 359 : 3 825 : 2

**14.** Рашы задачу. Складзі дзве адваротныя задачы.
Тры самазвалы перавезлі 24 т грузу, пароўну кожны. Колькі тон грузу перавёз кожны самазвал?

**15.** Жэня з’еў $\frac{1}{5}$ частку ўсіх цукерак з каробкі. Колькі цукерак ён з’еў, калі ў каробцы было 35 цукерак?

**16.** У першы дзень сабралі 200 кг вінаграду і ў другі дзень столькі ж кілаграмаў. З усяго вінаграду зрабілі разынкі. Колькі кілаграмаў разынак атрымалася, калі іх маса роўная $\frac{1}{4}$ масы сабранага вінаграду?

**17.** У шасці аднолькавых звязках 144 кнігі. Колькі кніг у трох такіх звязках?

**18.** У трохлітровыя слоікі разлілі 78 л соку. Колькі літраў соку трэба прывезці, каб нарыхтаваць столькі ж пяцілітровых слоікаў?

**19.** На 7 аднолькавых блузак трэба прышыць 56 гузікаў, пароўну на кожную. У швачкі ёсць 80 гузікаў. Ці хопіць ёй гэтых гузікаў для 9 блузак?

**20.** У 5 аднолькавых сшытках у лінейку столькі ж лістоў, колькі ў 6 аднолькавых сшытках у клетку. У адным сшытку ў клетку 10 лістоў. Колькі лістоў у сшытку ў лінейку?

**21.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.
За 3 г машына праехала 240 км. З якой скорасцю ехала машына?

**22.** Складзі і рашы задачы.







**23.** Два паязды ў 21 г 40 мін ад'ехалі ад вакзала ў супрацьлеглых напрамках са скарасцямі 95 км/г і 87 км/г. На якой адлегласці яны будуць адзін ад аднаго праз 3 г?

**24.** Два сабакі адначасова выбеглі насустрач адзін аднаму з двух будак і праз 2 мін сустрэліся. Скорасць аднаго сабакі была 400 м/мін, а скорасць другога сабакі была на 80 м/мін большая. Якая адлегласць была паміж будкамі?

**25.** Начарці прамавугольнік са старанамі даўжынёй 5 см і 3 см. Вылічы перыметр гэтага прамавугольніка. Начарці квадрат з такім жа перыметрам.

**26.** Даўжыня ломанай з трох звёнаў 370 см. Знайдзі даўжыню трэцяга звяна ломанай, калі даўжыня першага звяна 15 дм, а даўжыня другога звяна роўная $\frac{1}{5}$ даўжыні першага звяна.

**27.** Пеця ўключыў тэлевізар у 15 г, а мама выключыла яго ў 15 г 30 мін. Колькі часу Пеця глядзеў тэлевізар?

**28.** Аўтобус выехаў з Кобрына ў 11 г, а прыехаў у Брэст праз 1 г 15 мін. А якой гадзіне аўтобус прыехаў у Брэст?

## Гэта цікава!

### Суткі

Ты ўжо ведаеш, што Зямля круціцца вакол сваёй восі. Пакуль Зямля паварочваецца, Сонца асвячае яе з розных бакоў. Таму адбываецца змена дня і ночы. Зямля робіць поўны абарот вакол сваёй восі за 24 гадзіны. Гэты адрэзак часу называюць **суткі**.

У сучаснай сістэме вымярэння часу ў сутках 24 гадзіны. Пачаткам сутак лічыцца ***поўнач*** — момант часу, калі заканчваюцца адны суткі і пачынаюцца другія. Лічыцца, што пачатак сутак — гэта 0 гадзін.

Ад 0 гадзін да 12 гадзін праходзіць першая палова сутак і наступае ***поўдзень***. На фатаграфіях відна, як электронныя гадзіннікі паказваюць гэты час.







На цыферблатным гадзінніку поўнач і поўдзень абазначаюцца аднолькавым становішчам стрэлак, таму што цыферблат падзелены толькі на 12 гадзінных дзяленняў.

Праз гадзіну пасля поўдня стрэлка дойдзе да лічбы 1. Паколькі ад пачатку сутак (ад поўначы) прайшло на 1 гадзіну больш, чым 12 гадзін, то час можна прачытаць па-іншаму: 13 гадзін.

**Мураўёва, Г. Л.**

М91 Матэматыка : вучэб. дапам. для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2013. — Ч. 2. — 144 с. : іл.

ISBN 978-985-559-228-1.

**УДК 51(075.2=161.1)**
**ББК 22.1я71**

Вучэбнае выданне

**Мураўёва** Галіна Леанідаўна
**Урбан** Марыя Анатольеўна

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *І. А. Усенка, Ю. М. Галавейка*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *Н. М. Мамчыц, Н. І. Пархун, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 09.07.2013. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,53. Ул.-выд. арк. 4,34 + 0,4 форз.
Тыраж 7700 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

